І. ЛЯСОЦКІ

# БАРАЦЬБА
# ПОЛЬСКАГА КОМСАМОЛУ






ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
МЕНСК — 1927



## Гісторыя барацьбы Комсамолу ў Польшчы.

У канцы сакавіка 1922 году адбыўся першы (організацыйны) Зьезд Саюзу Комуністычнай Моладзі ў Польшчы, які аб'яднаў у адну маналітную, цэнтралізаваную організацыю ўсе, да таго часу раскіданыя па краіне групы комуністычнай моладзі.

Годы, што прайшлі з часу організацыйнага Зьезду былі ў гісторыі Польскага Комсамолу пэрыядам жорсткай, бязлітаснай барацьбы з буржуазнымі катамі; пэрыядам, на працягу якога шлях да канчатковай перамогі ўсьцілаўся афярамі маладых гэрояў—польскіх комсамольцаў; пэрыядам, у часе якога, тысячы іх былі вырваны з шэрагаў змагаючыхся і, шляхам грубага гвалту, кінуты ў турмы на доўгія годы! Гэта быў пэрыяд, на працягу якога Саюз, з невялічкіх груп разросься ў моцную організацыю, што мае вялікі ўплыў сярод мас працоўнай моладзі, ператварыўся ў прызнанага правадыра маладых рабочых і сялян.

І таму, кожная новая гадавіна барацьбы і працы цэнтралізаванага КСМП будзе зьяўляцца днём сьвята ня толькі польскай рэволюцыйнай моладзі, але і пролетарскай моладзі ўсяго сьвету, а ў першую чаргу—маладых рабочых і сялян Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Асабліва блізка гэтае сьвята павінна быць моладзі Савецкай Беларусі, частка якой працягвае заставацца пад окупацыйным ярмом польскіх капіталістых і паноў. Гадавіну гэту будзем сьвяткаваць сумесна з поль-

скімі і заходня-беларускімі комсамольцамі, сьведчачы гэтым, што мы зьяўляемся членамі адзінай рэволюцыйнай сям'і, якая змагаецца за лепшае будучае працоўнай моладзі.

## Ці пачынаецца гісторыя КСМ Польшчы з часу І-га Зьезду?

Гісторыя Польскага Комсамолу пачынаецца, вядома, ня з моманту І-га Зьезду. Ужо ў канцы 1918 году і ў пачатку 1919 г., у розных гарадох Польскай дзяржавы, зарадзіліся невялічкія групы комуністычнай моладзі. Адны з іх складаліся з членаў былых юнацкіх груп Социял-Дэмократыі Каралеўства Польскага і Літвы ці стварыліся ў выніку аб'яднаньня гэтых груп з групамі Польскай Соцыялістычнай Партыі „Лявіцы"; організацыя іншых зьявілася вынікам вядомага рэволюцызаваньня моладзі—факта не масавага, хоць рэволюцыйныя хвалі разьліліся тады ў Польшчы шырока. Групы гэтыя карысталіся правам легальнага існаваньня вельмі кароткі час, таму што ўжо на працягу першых месяцаў 1919 году прымушаны былі пайсьці ў падпольле. Організацыі гэтыя мелі невялікія сілы. Прычын гэтаму было шмат. Дзякуючы застою ў прамысловасьці, прыток рабочай моладзі мог быць вельмі нязначным (прычым, ня трэба забываць, што значная частка моладзі была ў Комуністычнай Партыі). Досыць вялікая частка моладзі знаходзілася ў арміі. Але як найбольш важную прычыну слабасьці руху комуністычнай моладзі, трэба падкрэсьліць надзвычайна моцныя патрыётычныя настроі сярод самых шырокіх мас моладзі, тады яшчэ варожых ідэям комунізму.

Аднак, колькасьць нашых комуністычных організацый моладзі паступова ўзрастала, а ўжо існу-

ючыя разрасталіся. Унутры іх разгортваліся ідэолёгічныя бойкі, а ў Варшаўскай організацыі нават адбыўся раскол, і далей у 1921 годзе—роспуск організацыі і ўступленьне яе ў КПП. Гэта ўнутраная барацьба ня была, вядома, бязплоднай. Яна зьяўлялася немінучай. У гарніле гэтых спрэчак і боек з рознымі блытанінамі (ці неабходна існаваньне самастойнай організацыі моладзі, настрої супроць інтэлігэнцыі—сярод аднэй часткі, і няўменьне падыйсьці да рабочай моладзі—у другой і г. д.) ідэолёгічна і організацыйна выкаваліся першыя кадры, закладваліся асновы Польскага КСМ.

Вайна прывяла да ўпадку большасьці груп комуністычнай моладзі. У моцныя організацыі разрасьліся толькі групы комуністычнай моладзі на тэрыторыях, занятых Чырвонай Арміяй—у Заходняй Беларусі, у Беластоку, Вільні і г. д.

## Калі польскія комсамольцы зноў пачалі організоўвацца?

У 1921 годзе, калі моладзь пачала паступова зварочвацца з вайны, організацыі КСМ зноў разгарнуліся. Комуністычная Партыя Польшчы ўсімі сіламі дапамагала організацыям моладзі ў іх працы, вылучыўшы спэцыяльны Аддзел Моладзі. У сэкцыях моладзі пры Профэсыйных Саюзах, якія самастойна ўзьнiклі ў 1919 годзе, але працу якіх разбурыла вайна, зноў шырокай хваляй улілася моладзь. Гэтыя сэкцыі зьявіліся галіною, у якой комсамольцы праводзілі энэргічную працу і з асяродзьдзя членаў гэтых сэкцый, адбывалася вярбоўка значнай колькасьці членаў КСМ. Адначасова у 1921 годзе, узьнікае моцная левая опозіцыя ў організацыі польскіх меншавікоў—„пэпээсаўцаў“ у Саюзе Польскай Соцыялістычнай Моладзі і ор-

ганізацыі яўрэйскіх меншавікоў—бундаўцаў у „Цукунфт‘э“.

Паступова першая арганізацыя — Саюз Польскай Соцыялістычнай Моладзі пападае ў рукі „Лявіцы“ (левай опозіцыі) і ў апошніх месяцах 1921 г. ужо працуе сумесна з КСМ а потым у большай частцы ўліваецца ў шэрагі Комсамолу.

У „Цукунфт‘э“-ж у 1921 г. наступае раскол, у выніку якога, большасьць організацыі стварае так званы „Комуністычны Цукунфт“ („Комцукунфт“), які пасьля звыш гадовага існаваньня ў сакавіку 1923 г. уступае ў КСМ.

Усе гэтыя факты трэба разглядаць, як праяўленьні процэсу масавага рэволюцызаваньня працоўнай моладзі.

Гэты процэс пачаўся амаль зараз-жа пасьля вайны, як яе непасрэдны вынік. Рабочая моладзь пераканалася, што яна змагалася не за „блага народу“ як казала буржуазія і яе соцыял-здрадніцкія лёкаі, а за павялічэньне прыбыткаў польскай буржуазіі, за адняцьце ў беларускіх і ўкраінскіх сялян зямлі. А дома, пасьля аслабаненьня з арміі, моладзь не знаходзіла нічога, акрамя голаду і патрэбаў, недахопу ў працы, беспрацоўе. Капіталістыя ўсялякім чынам выкарыстоўвалі цяжкае становішча краіны, прымушаючы моладзь працаваць па 10 і больш гадзін у суткі за нікчэмнае ўзнагароджаньне. А ва ўрадзе прадстаўнікі гэтых-жа капіталістых ўжывалі ўсе сродкі, каб задушыць рабочы рух.

Пасьля досыць працяжнай падрыхтоўчай працы, у канцы сакавіка 1922 г. у Варшаве, нялягальна, сабраўся 1-шы Зьезд, на якім было ўхвалена прыняць назву цэнтралізаванай організацыі: Саюзу Комуністычнай Моладзі Польшчы.

Са дню 1-га Зьезду пачынаецца новая паласа ў гісторыі Польскага КСМ. Гэтыя чатыры літары КСМП на працягу пяці год, прайшоўшых пасьля організацыйнага Зьезду, золатам упісалі сябе ў гісторыю рэволюцыйнага руху моладзі.

## Якая розьніца паміж УсеЛКСМ і КСМ Польшчы?

Польскі КСМ, таксама як і наш УсеЛКСМ, зьяўляецца сэкцыяй Комуністычнага Інтэрнацыяналу Моладзі (КІМ'у). Разумеецца, што ідэолёгія Польскага Комсамолу, яго канечныя мэты тыя-ж, што і Ўсесаюзнага КСМ. Але акрамя гэтага характар, формы, умовы працы і бліжэйшыя мэты Польскага Саюзу зусім іншыя. Гэта выплывае з тэй простай прычыны, што — Усесаюзны Комсамол працуе ў нашай дзяржаве, дзе ўладу трымаюць у сваіх руках рабочыя і сяляне. Польскі-ж Комсамол вядзе барацьбу ў капіталістычна-панскай Польшчы, якая будуе сваю крывавую ўладу на прыгнечаньні рабочых і сялян, якая імкнецца, праз самы дзікі белы тэрор задушыць рэволюцыйны рух. Ясна, што важнейшай задачай КСМ у Савецкім Саюзе, як організацыі, дапамагаючай УсеКП(б), зьяўляецца: удзел у будаўніцтве соцыялізму, ва ўмацаваньні Савецкай улады; важнейшай-жа задачай Польскага КСМ зьяўлецца: барацьба супроць існуючага ладу, дапамога КП Польшчы ў справе разбурэньня ўлады капіталу ў Польшчы. З гэтай асноўнай галоўнай розьніцы выплывае шэраг і другіх. У той час, калі наш Саюз ня толькі лягальна працуе, але карыстаецца ўсякім падтрыманьнем з боку Савецкай улады, знаходзіцца пад яе абаронай, Польскі Саюз прымушан працаваць ва ўмовах нячувалага тэрору з боку польскай буржуазіі, прымушан хавацца ў падпольлі,

зьяўляючыся, такім чынам, організацыяй нелягальнай. Гэта становішча прымушае польскіх комсамольцаў захоўваць сваю прыналежнасьць да Саюзу, роўна, як і ўсю ўнутраную організацыю. Паміж сворай платных шпіёнаў і поліцэйскіх з аднаго боку і комсамольцамі з другога, адбываецца нястрымная барацьба: шпіёны, як гоншыя сабакі стараюцца накрыць, вышукаць польскіх комсамольцаў. У гэтай барацьбе комсамольцы ставяць на карту сваё жыцьцё і волю, а найвышэй за ўсё дабрабыт організацыі. Вось таму, навыкі консьпірацыі неабходны для кожнага з іх. Ня ўсе ў аднолькавай меры ўладаюць гэтымі навыкамі, бо для іх атрыманьня патрэбен вялікі вопыт і нават вядомыя здольнасьці, дазваляючыя заўладаць спосабамі консьпірацыі ва ўдасканаленьні.

Зразумела, што працуючы зусім у іншых умовах у параўнаньні са сваім суседам у СССР — Польскі Саюз мае таксама і іншыя формы працы, нават зьмест яго працы ў вядомай ступені другі. Так, напрыклад, Польскі Саюз павінен шукаць лягальных форм працы, патаемна працуючы ў розных організацыях моладзі, з цяжкасьцю зьвязваючы сваю нелягальную організацыю з масамі беспартыйнай моладзі.

Жыцьцё прымушае КСМ займацца перш за ўсё політычнай барацьбой і ў меншай меры—політыка-выхаваўчай працай, якая так шырока разгорнута ў нашым ЛКСМ. І такое становішча рэчаў зразумелае. Для вядзеньня выхаваўчай працы (хоць Польскі Саюз адводзіць ёй досыць вялікае і ўсё павялічваючаеся мейсца) не хапае часу, таму што заўсёды трэба быць гатовым да непасрэднай барацьбы. Досыць часта няма памяшканьня, у якім можна было-б сабрацца на больш доўгі час, няма, што вельмі важна, неабходнай літаратуры. Вось

таму польскія комсамольцы вучацца часьцей за ўсё ў турме, у якой „гасьціў“ амаль кожны... Пакажам на яшчэ адну розьніцу—на працу ў арміі. Сутнасьць і зьмест працы КСМ у арміі Польшчы і СССР у корані працівалеглы.

Гэтыя рознасьці паміж УсеЛКСМ і Польскім КСМ, мы павінны добра уцяміць, калі хочам зразумець, чым зьяўляецца Польскі Комсамол. Наш Саюз разгарнуўся ў агні непасрэднай рашаючай барацьбы за ўладу пролетарыяту. Наша штодзённая барацьба, патрабуючая вялікага гэроізму, мае іншыя формы, якія розьняцца ад тых, з дапамогаю якіх вядуць барацьбу польскія комсамольцы. Няма нічога дзіўнага ў тым, што не перажыўшы гэтага, ня можам добра ведаць умовы працы і барацьбы ва ўмовах, калі кожны крок прыходзіцца акупаць кроўю, калі канчатковай перамогі яшчэ ня відаць. Усе тыя маладыя рабочыя і сяляне, якія, паміма ўсіх небясьпек, уступаюць у КСМП, выкрываюць гатоўнасьць аддаць нават жыцьцё ў афяру вялікай справы вызваленьня пролетарыяту. Усе яны ўступаюць у лягер барацьбы, якая не запужвае іх—гэтых насіцеляў славутай назвы: Польскага Комсамольца.

## Якія яшчэ перашкоды павінен перамагаць у сваёй працы польскі комсамолец?

Вышэй мы ўжо казалі аб цяжкасьцях у працы Польскага Комсамолу, што выцякаюць з сыстэмы нячувалага тэрору, які Польскі ўрад ужывае для падаўленьня рэволюцыйнага руху. Гэтыя цяжкасьці, аднак, не адзіныя і, бадай, ня самыя сур‘ёзныя.

Нават у СССР, дзе ўжо на працягу 10 год на чале ўлады стаяць рабочыя і сяляне, прыходзіцца, не перастаючы, весьці барацьбу з уплывамі буржуазнай ідэолёгіі: з нацыяналізмам, з антысэмэтызмам,



з рэлігіяй і г. д. А што-ж казаць аб Польшчы, дзе дзяржава прыкладае ўсе патугі, каб атуманіць сьвядомасьць народных мас? Польская буржуазія ведае, што нават самы дзікі тэрор супроць комуністых не дапаможа, калі масы працоўных вызваляцца ад уціску буржуазнай ідэолёгіі, зразумеюць нямінучасьць барацьбы. Вось таму яна ўсімі сродкамі імкнецца ўнядрыць у сьвядомасьць працоўнага народу буржуазную ідэолёгію. Буржуазная дзяржава стварыла агромністы апарат, спэцыяльна прыстасаваны для гэтай мэты. Ён імкнецца ўвесь народ закаваць у ланцугі, асобнымі зьвеньнямі якіх зьяўляюцца: ксяндзы, армія, настаўнікі, рознастайныя асьветныя організацыі, рэлігійныя організацыі, буржуазныя ці згодніцкія партыі і інш. Малады рабочы ці селянін ужо ў школе, атрымоўвае патрыётычнае і рэлігійнае выхаваньне, ужо ў школе яму ўнушаюць, што ён павінен маліцца, грудзьмі абараняць „маршала“ Пілсудзкага, што найзласьнейшы вораг Польшчы (вядома, ня кажуць, што Польшчы фабрыкантаў і паноў)—комуністы і г. д. Для прыкладу, каб лепш зразумець, чым зьяўляецца ў Польшчы школа, возьмем толькі адзін пункт (7) з распараджэньня міністра асьветы ад 9-га сьнежаня 1926 году.

„Практычныя заняткі па закону божаму для школьнай моладзі ўваходзяць у агульную сыстэму рэлігійнага навучаньня. Моладзь абавязваецца прымаць у іх удзел“.

Адначасова, буржуазія праз сваіх агэнтаў у рабоча-сялянскім лягеры (напрыклад, польскіх меншавікоў, пэпээсэцаўцаў) атуманьвае клясу працоўных, імкнучыся схіліць іх да „мірнага“ дагавору з пануючай клясай. Разумеецца, што і сярод моладзі буржуазія імкнецца стварыць свае організацыі. Так у Польшчы існуюць і хрысьціянскія і роз-

ныя „народныя“ і „соцыялістычныя“ саюзы моладзі, якія ўсякімі спосабамі адцягваюць працоўную моладзь ад барацьбы з буржуазіяй. Існуюць таксама фашысцкія організацыі моладзі і ваенныя саюзы, якія яднаюць у сваіх шэрагах пераважна моладзь.

Акрамя гэтага, працуюць спортыўныя саюзы, якія таксама вядуць абучэньне сваіх членаў у ваенна-шовіністычным духу. Усё выхаваньне ў гэтых організацыях, уласна кажучы, ёсьць ніштo іншае, як спэцыяльная форма дапрызыўнай падрыхтоўкі моладзі. Буржуазія стараецца ваенізаваць усё жыцьцё моладзі і соцыял-шовіністы, вядома, дапамагаюць ёй у гэтым чым толькі могуць. Такімі ваенна-спортыўнымі організацыямі перш за ўсе зьяўляюцца: „Стралец“ Пілсудзкага (250 тысяч членаў), „Скаўт“ (60 тысяч членаў), „Сокал“ і „Скра“—спортыўная організацыя ППС.

Трэба адзначыць, што на працягу першых год існаваньня незалежнай Польскай Дзяржавы, ня толькі буржуазная моладзь, але і большасьць рабоча-сялянскай моладзі, была настроена шовіністычна, мілітарыстычна, наогул—знаходзілася пад уплывам буржуазнай ідэолёгіі.

Так, напрыклад, было ў 1920 годзе, калі „увесь нацыянальны хор“ заклікаў да барацьбы з „найвялікшым ворагам—СССР“.

КСМП змагаецца з усімі праяўленьнямі буржуазнай ідэолёгіі сярод моладзі markdown розными спосабамі і, сярод іх, шляхам правядзеньня асобных кампаній. Так, напрыклад, у 1926 годзе праводзіліся кампаніі супроць мілітарызацыі школ і умоў жыцьця працоўнай моладзі, антырэлігійныя, антыфашысцкія і інш.

І ўсё такі, хоць буржуазія працівапастаўляе Комсамолу Польшчы ўсе свае сілы—Польскі Саюз

прыцягвае да ідэі комунізму ўсё больш і больш шырокія масы пролетарскай моладзі.

## Як працоўная моладзь рвала адносіны з соцыялздраднікамі.

Доказам таго, што насеньне праўды, што сеецца Польскім КСМ, пападае на добрую глебу, зьяўляецца перш за ўсё няўхільны рост Саюзу. Пераконвае нас у гэтым таксама рэволюцыянізаваньне многіх згодніцкіх організацый моладзі і расколы ў іх асярэдзіне. КСМП зьяўляецца сьцягам, вакол якога зьбіраюцца тыя сілы маладога пакаленьня, якія вызваліліся ад уплыву буржуазнай ідэолёгіі—сумелі парваць з ёю ўсе ніці.

Вышэй мы ўжо казалі аб Саюзе Польскай Соцыялістычнай Моладзі і Комцукунфт'э. У 1923 г., такі-ж процэс радзікалізацыі перажыла, наступная па чарзе організацыя Польскай Соцыялістычнай Партыі—Саюз Польскай Рабочай Моладзі „Сіла", таксама пераходзячы, у большай сваёй частцы, у шэрагі Комсамолу. У гэты час і ў наступныя годы да Комсамолу далучаюцца розныя невялікія групы, якія вышлі з саюзаў яўрэйскай соцыялістычнай моладзі.

У 1924 годзе наступае раскол у студэнцкай організацыі—Саюзу Незалежнай Соцыялістычнай Моладзі: большасьць ідзе разам з „Лявіцай", ствараючы так званае „Жыцьцё". У 1925 годзе да яго далучаецца новая адкалоўшаяся група ў Львове (Заходняя Украіна). У гэтым-жа годзе, у 10 гадавіну сусьветнай вайны, наступае раскол у організацыі соцыялістычных скаўтаў („Вольні Харцэжэ"): чуць ня ўся організацыя прымае назву **піонэраў** і займае рэволюцыйныя позіцыі (актыўнай барацьбы супроць мілітарызму). У 1926 г. адбываецца выключэньне некалькіх аддзелаў (напрыклад, Ло-

дзінскага) з новай арганізацыі пэпээсаўскай моладзі „Тур'у“, а таксама адыход ад ППС Цешынскай (Верхняя Сілезія) арганізацыі „Сілы“.

Усе гэтыя зьявішчы, адбіваюць процэс няўхільнага рэволюцыянізаваньня працоўнай моладзі, служаць разам з тым доказам таго, што жахавае эканомічнае становішча, у якім гэта моладзь знаходзіцца, робіць сваё, што горкая рэчаіснасьць ў Польшчы раскрывае вочы ўсё больш шырокім масам моладзі.

Але, адначасова, гэты процэс рэволюцыянізаваньня моладзі, у значнай ступені, зьяўляецца таксама вынікам дзейнасьці Польскага КСМ. Выступаючы супроць агромністага „ідэолёгічнага“ апарату Польскай дзяржавы, КСМ перамагае паступова, крок за крокам пасоўваецца ўперад! У гэтай барацьбе, якая разгортваецца паміж ўрадам і Комуністычнай Партыяй, сёньня яшчэ няроўных па вялічыні і сілам, перамога застаецца на баку апошняй, таму што жыцьцё працуе на яе! Буржуазія, з усім сваім апаратам выхаваньня, са сваёй поліцыяй, арміяй, турмамі і астатнімі органамі прыгнечаньня, ня знойдзе такой сілы, якую можна было-б працівапаставіць змагаючымся за дыктатуру пролетарыяту рабочым і сялянам Польшчы.

## Як пабудован Комсамол Польшчы?

Працуючы ў нелягальных умовах, Комсамол Польшчы, вядома, карыстаецца адпаведна прыстасаванымі да гэтых умоў арганізацыйнымі формамі; натуральна, што і ўнутрысаюзная праца таксама ўяўляе сабою зусім іншы малюнак, чым у нашым Саюзе. Разгледзім Саюз Польшчы, перш за ўсё, з гэтага боку.

Саюз пабудован на падставе тых-жа прынцыпаў, што і наша арганізацыя. Ён дзеліцца ў па-

чатку на гурткі ці ячэйкі, потым раёны, якія аб'ядноюцца ў акругі: а акругі, у суме, ствараюць Саюз у цэлым. Аўтаномныя комсамольскія організацыі ў Заходняй Беларусі і ў Заходняй Украіне, натуральна, зьяўляюцца паасобнымі часткамі Комсамолу Польшчы. Гурткі, ячэйкі зьбіраюцца, звычайна, праз такі-ж працяг часу, як у нас і праз кожныя 6 месяцаў (у сярэднім) склікаюцца раённыя конфэрэнцыі, удзельнікамі якіх зьяўляюцца абраныя ячэйкамі дэлегаты. Конфэрэнцыі гэтыя, у першую чаргу, вядома, заслухоўваюць справаздачу зыходзячага з працы Камітэту, абіраюць новы Камітэт, прымаюць рэзолюцыі па працы організацыі, па політычных пытаньнях і г. д. У гэтых адносінах, усё дасканальна так, як і ў нас.

Але далей пачынаецца агромністая розьніца. Па прычынах неабходнасьці захаваньня строгай консьпірацыі, ячэйкі налічваюць у сваіх шэрагах па 8, у рэдкіх выпадках—па 10 членаў.

Гэта—максымальная колькасьць. Большага ліку няма магчымасьці зьбіраць. Адшуканьне памяшканьня для сходу нават такога нязначнага ліку моладзі ўяўляе вялікія цяжкасьці, бо поліцыя ня дрэмле! Улетку, звычайна, удаецца праводзіць сходы за горадам, але зімою—само сабою разумеецца — сходы магчыма наладжваць толькі на прыватных кватэрах. Зьбірацца ў такую, заранней паказаную кватэру комсамольцы павінны „па аднаму", праз вядомы працяг часу. И пасьля сканчэньня сходу, таксама, звычайна, разыходзяцца ня групамі, а па аднаму. Для чаго гэта робіцца? Сутнасьць справы заключаецца ў тым, каб не зьвярнуць на сябе чые-б там ня было ўвагі, каб ніхто не заўважыў, што зьбіраюцца нейкія людзі.

Заўважыўшы гэта які-небудзь буржуйскі халуй можа паведаміць па тэлефону ў поліцыю, што ў

такім-та і такім мейсцы наладжваюцца сходы—і ўсе будуць арыштаваны. Сходы працягваюцца адносна кароткі час: для доўгіх дакладаў і святочнай балтаўні няма часу. Кожны з прышоўшых на сход ведае толькі псэўдонімы (мянушкі) іншых прысутных. У Польшчы, кожны комсамолец мае мянушку, таму што ніколі ня можа быць упэўненым у тым, што хто-небудзь з сяброў організацыі не зьяўляецца правакатарам, аплачваемым паліцыяй. Калі такі здраднік ня ведае прозьвішчаў іншых сяброў організацыі, іх адрасоў (а іх—комсамольцам паведамляць нельга) тады, нават у выпадку, калі яму і ўдаецца пралезьці ў Комсамол, здрадніцтва (ці, як кажуць польскія рабочыя: „Засыпка другіх“) уяўляе сабою вялікую цяжкасьць. Сапраўды, якое значэньне могуць мець тыя абставіны, што яму вядомы псэўдонімы (мянушкі): „Піліп“, „Сьцёпка“, „Сонька“, і інш., калі гэта толькі выдуманыя імёны? Сапраўдных-жа прозьвішчаў і адрасоў насіцеляў гэтых мянушак ён даведацца ня можа, калі прынцыпы консьпірацыі строга захоўваюцца. Каб яшчэ ў большай ступені захаваць сябе ад „засыпак“, адрасы месц сходаў паведамляюцца ўдзельнікам у апошнюю хвіліну, на так званым „падпункце“. Гэта робіцца таму, каб магчымы правакатар ня мог загадзя паведаміць адрас сходу ў ахранку. Як бачым, захаваньне гэтай найвялікшай асьцярожнасьці вымагае траты масы энэргіі і часу. Але гэтая асьцярожнасьць зусім неабходна. (Аднак, і яна ня можа ў поўнай меры прадасьцярэгчы Комсамол ад правакатараў).

Падобным-жа чынам наладжваюцца пасяджэньні Камітэтаў і конфэрэнцый, толькі тады трэба асьцярагацца ў яшчэ большай ступені, бо ў конфэрэнцыях прымаюць удзел па 20-25 чалавек. Прытым, конфэрэнцыі, нярэдка, цягнуцца цэлы

дзень, таму што ўсе пытаньні, стаячыя перад організацыяй, павінны быць абгавораны.

А як адбываюцца выбары ў раёны і акруговыя камітэты ці выбар дэлегатаў на конфэрэнцыю? З сказанага вышэй відаць, што члены камітэту таксама, як і дэлегаты, павінны быць нявядомы ўсёй масе членаў. Вось таму ў Комсамоле Польшчы наладжваюцца патаемныя выбары. Гэта азначае, што абіраецелі пішуць псэўдонімы тых асоб, за якіх яны галасуюць, на паперках. Сэкратар і прадстаўнік вышэйстаячай саюзнай інстанцыі, збіраюць паданныя ўсімі прысутнымі лісткі, падводзяць вынікі выбараў, але не агалошваюць вынікаў абіраецелям, а інформуюць толькі абраных. Такім чынам, напрыклад, члены акруговай конфэрэнцыі не павінны ведаць, хто ўваходзіць ў акруговы камітэт і г. д.

На пасяджэньне кожнай організацыйнай адзінкі Комсамолу Польшчы, прыходзіць прадстаўнікі вышэйстаячай адзінкі, напрыклад: на пасяджэньне раённага камітэту—прадстаўнік акруговага камітэту і г. д. Гэтыя прадстаўнікі зьяўляюцца зьвязваючымі зьвеньнямі паміж вышэйстаячай і ніжэйстаячай інстанцыямі. Такім шляхам, ад вышэйстаячых інстанцый вусная інформацыя (пісьмовая інформацыя ўдаецца надзвычайна цяжка) даходзіць да першпачатковай саюзнай адзінкі—гуртка-ячэйкі.

## Як Комсамол Польшчы рэорганізуецца на фабрычна-завадзкой аснове?

Усе організацыі комуністычнай моладзі на Заходзе (паміж імі—і Комсамол Польшчы) будаваліся па тэрыторыяльнаму прынцыпу; гэта азначае, што ў ячэйцы, напрыклад, былі: два шаўцы, адзін мэталіст, адзін кравец, адзін будаўнічы рабочы і г. д.,

якія жывуць на аднэй і тэй-жа тэрыторыі—блізка адзін каля другога. Зусім відавочна, што гэтыя ячэйкі былі зусім непрыстасаваны да абгаварваньня пытаньняў, якія датычацца працы ў азначаных фабрыках і майстэрнях—а якім чынам комсамольскія ячэйкі могуць зьвязацца з масамі моладзі, кіраваць яе штодзённай барацьбой, калі яны ня ведаюць нават, што робіцца на фабрыцы? Такія тэрыторыяльныя ячэйкі былі зусім непрыстасаваны кіраваць барацьбой. Вось таму, пасьля 4-га Конгрэсу КІМ'у, Комсамол Польшчы разам з іншымі Саюзамі, згодна пастановам Конгрэсу, прыступіў да выкарыстаньня вопыту ЎсеЛКСМ і перабудоўлі, рэорганізацыі Саюзу на новай аснове—фабрычна-завадзкой. Разумеецца, што за кароткі тэрмін правесьці гэтага нельга. Аднак, паступова, раўналежна ўзрастаньню ўплыву КСМ, рэорганізацыя пайшла ў шырыню і ў глыбіню. Ясна, што найбольшыя вынікі рэорганізацыя дала ў прамысловых акругах: у Варшаве, Дамброўскім басэйне, Лодзі, у Верхняй Сілезіі. Прывядзем некалькі даных, паказваючых рост сеткі фабрычных ячэяк (акрамя даных, адносячыхся да профэсыйных ячэяк, прадстаўляючы з сябе пераходную форму да фабрычнай сыстэмы, якімі мы не разьлічваем. Ад кастрычніка месяцу 1924 году да лютага 1926 г. колькасьць ячэяк на фабрыках і шахтах узрасла ў 3 разы, а к студзеню 1927 году—у 6 разоў.

Прычым, у той час, калі ў кастрычніку 1924 г. 75% фабрычных ячэяк знаходзіліся ў Дамброўскім басэйну, у лютым 1926 году рост фабрычных ячэяк у Варшаве выяўляецца ў 25% і ў Лодзі, Верхняй Сілезіі і ў Радом-Сядлецкім раёне—таксама у 25%. А ўжо ў пачатку 1927 г. Варшава налічвала ў 2 разы большую колькасьць фабрычных ячэяк у параўнаньні з лютым 1926 г.; і Дам-

броўскі басэйн даў павялічэньне колькасьці ячэяк на 75 процантаў.

Такі хуткі рост колькасьці фабрычных ячэяк,— ячэяк, якія ўжо навучыліся разумець патрэбы моладзі на фабрыцы, становячыхся сапраўднымі правадырамі яе, прывёў да больш цеснай сувязі Комсамолу Польшчы з масамі працоўнай моладзі.

Фабрычныя ячэйкі зьявіліся тымі органамі, праз якія падпольная, скрываючаяся днём і ноччу, комсамольская організацыя, лепш усяго дасягае мас моладзі, гутарыць з ёю на мове барацьбы і вядзе яе ва ўсё баі, як яе авангард.

## Што ўяўляюць з сябе дэмонстрацыі Польскага Комсамолу?

Нелягальныя комсамольскія організацыі працуюць, вядома, ня толькі ў падпольлі, але імкнуцца знайсьці дачыненьне з найшырэйшымі масамі працоўнай моладзі—часта выходзяць на дняўны сьвет, на вуліцу, выступаюць на сходах, наладжваюць дэмонстрацыі (напрыклад: 1-га Мая, Міжнародны Юнацкі Дзень), разьвешваюць сьцягі, раскідваюць адозвы і інш.

Разгледзім, перш за ўсе, як наладжваюцца і які маюць выгляд комсамольскія дэмонстрацыі ў Польшчы. Перад кожнай такой дэмонстрацыяй, Компартыя і Комсамол стараюцца організаваць магчыма большую колькасьць масавак і сходаў для беспартыйных рабочых. Нярэдка, для гэтай мэты выкарыстоўваюцца, адбываючыеся часам у гэты-ж час сходы на фабрыках і па профэсыйных саюзах, часам склікаюцца спэцыяльныя, так званыя, маёўкі за горад. Прамоўца на фабрыцы або ў профэсыйным саюзе ня можа гаварыць упаўне адкрыта, і часта пасьля сканчэньня прамовы, прымушан

уцякаць пад абаронай таварышоў. Чым мацней і актыўней організацыя, тым большую колькасьць сходаў яна зможа організаваць і тым большы лік рабочай моладзі ўдзельнічае ў іх. Пагледзім, напрыклад, як энэргічна разьвівала падрыхтоўчую працу Варшаўская організацыя КСМ у жніўні месяцы 1926 году:

„Адбылося 7 мітынгаў: 3 мітынгі польскай моладзі, 3 мітынгі яўрэйскай моладзі і адзін—інтэлігэнцкай моладзі. Масаўкі каля фабрыкі ЦВС (Цэнтральныя Аўтамабільныя Майстэрні) сабралі каля 400 маладых рабочых; каля фабрыкі лямпаў і бляшанак (у Павонсках) адбылася агульна-рабочая масаўка, у якой прымала ўдзел да 100 чалавек; на грамадзкіх працах: Замібож, Форт Шчэнслаўскі, Пражскі чыгуначны вузел—у масаўках, агулам, прыняло ўдзел да 700 чалавек моладзі“.

Гэта была кампанія перад Міжнародным Юнацкім Днём, асабліва цяжкая, бо дбайнасьць паліцыі ў гэты час павялічваецца. Лягчэй праводзіць сходы перад 1-ым Маем, таму што першамайскую ўрачыстасьць сьвяткуюць і соцыял-здраднікі з ППС, і ўсюды, па фабрыках і профэсыйных саюзах, адбываюцца лягальныя сходы, на якіх удаецца выступіць пры падтрыманьні слухачоў-рабочых і рэволюцыйным прамоўцам.

Пасьля гэтых падрыхтаваньняў адбываецца дэмонстрацыя. Ужо з самай раніцы, ў розных частках гораду пачынаюць зьбірацца маленькія групы маладых рабочых, каб пайсьці на зборны пункт. У мястэчках, звычайна, усе зьбіраюцца ў адным месцы. Ідучыя групы часам сустракаюць па дарозе вялікі лік спэцыяльна мабілізаваных паліцэйскіх і шпіёнаў. Нярэдка, завязваецца барацьба: маладыя рабочыя, узброеныя палкамі, абараняюцца, стараючыся прабіцца да месца збору. Бывае і так, што

паліцыя некаторыя групкі прымае за пэпээсаўскіх рабочых, якія вядома, недатыкальны... паважаемы. Паміж дэмонстрантамі і паліцыяй, ці то ў дзень 1-га Мая, ці ў Юнацкі Дзень, звычайна, адбываюцца сутычкі, часам некалькі сутычак і ўсё-ж, ня гледзячы на гэтыя сутычкі, дэмонстрацыя з сьцягамі рухаецца ўперад, робячы ў часе астановак прамовы і г. д. Якім чынам гэта адбываецца? Справа ў тым, што 1-га Мая ў Польшчы наладжваюцца агульна-рабочыя маніфэстацыі, дзякуючы чаму, у пачатку, ва многіх мясцовасьцях, паліцыя, ня будучы ў сіле адрозьніць калёны „урадавых“ соцыялістых з ППС ад „ворагаў Польшчы“—комуністых, не нападае на апошніх. Каб палегчыць паліцыі напад на комуністычныя шэрагі, аўтамабілі пэпээсаўцаў, звычайна стараюцца, аддзяліць комуністычную частку маніфэстацыі ад сваёй. Такую ганебную ролю выконваюць штогодна гэтыя „соцыялісты“! Разумеецца, што ў гэту хвіліну пачынаецца шалёная атака пешай і коннай паліцыі, якой, звычайна, дапамагаюць .фашысцкія і пэпээсаўскія банды. І ўсё-ж, хоць многія аказваюцца параненымі і арыштаванымі, бываюць і забітыя — рэволюцыйныя рабочыя не даюць сябе разьбіць.

У Міжнародны Юнацкі Дзень дэмонстрацыю наладжвае выключна Комсамол, вось таму на гэтую дэмонстрацыю крывавыя прыслужнікі буржуазіі нападаюць без усялякай літасьці. Але ўсе-ж, перш, чым зьбярэцца паліцыя, на плячох рабочых паднімаецца пераадзеты малады рабочы, які гаворыць кароткую баявую прамову. Па сканчэньні прамовы, прамоўца скрываецца ў групе некалькіх членаў Комсамолу, мяняе пальто, шапку, зьнімае акуляры і г. д., што дапамагае яму зьмяніць свой выгляд. У той-жа час пасьля гэтага, пачынаецца дэмонстрацыя. Сьцяганосец выцягвае з-пад пінжака

сьцяг і прывязвае яго да якога небудзь кія. З сотняў грудзей вырываецца магутная песьня. Дэманстрацыя самкнутымі шэрагамі праходзіць па вуліцах, выкрыкваючы лёзунгі і раскідваючы адозвы. Часта ўдавалася закончыць дэманстрацыю да прыбыцьця паліцыі, якая шукала маніфэстантаў... у іншым месцы. Але, звычайна, завязваецца барацьба, у часе якой маладыя пралетары паказваюць, што шашкі і вінтоўкі паліцыі іх ня пужаюць. Абараняючыся, маніфэстанты разьбягаюцца ў розныя бакі, каб зноў сабрацца ў другой частцы гораду і працягваць дэманстрацыю, якая завецца „лятучай“.

У выніку такіх дэманстрацый, маладыя рабочыя амаль заўсёды нясуць цяжкія афяры. І ўсе-ж такі, ня гледзячы на тое, што ў дэманстрацыях прымаюць удзел толькі найбольш баявыя і сьмелыя адзінкі, дэманстрацыі гэтыя зьбіраюць значную колькасьць моладзі.

Так, напрыклад, у часе Міжнароднага Юнацкага Дню 1926 году, у Варшаве, паведамляла буржуазная прэса:

„Дэманстравала каля 3000 маладых рабочых пад чырвонымі сьцягамі і з вялікай колькасьцю плякатаў. Некалькі атрадаў коннай паліцыі, пры ўзмацнёнай дапамозе грамадзян, разагналі дэманстрацыю, арыштаваўшы звыш 50 чалавек“.

Само сабою разумеецца, што гэтыя „грамадзяне“ — ніхто іншыя, як пэпээсаўскія „баявікі“, верныя памоцнікі паліцыі ў справе разгрому рэвалюцыйнага руху!

Такія-ж весткі даходзілі з фабрычнага цэнтру Заверца:

„1500 маладых пролетарыяў звыш гадзіны дэманстравалі пад сьцягамі і плякатамі".

Гэтыя дэманстрацыі з паўтары-дзьве тысячы чалавек моладзі, маюць ня меншае значэньне, чым шматтысячныя дэманстрацыі ў краінах, дзе яны зьяўляюцца лягальнымі і таму праходзяць у безнебясьпечнасьці.

Поліцыя, каб не дапусьціць маніфэстацыі, стараецца папярэдзіць яе... арыштамі, якія рэгулярна паўтараюцца перад кожным рабочым сьвятам. Так, напрыклад, перад МЮД'ам, у Дамброўскім басэйну было арыштавана каля 200 чалавек. Аднак, гэта ня ўтрымлівае маладых пролетарыяў ад дэманстраваньня сваёй рэволюцыйнай волі ва ўсіх больш буйных рабочых цэнтрах. У некаторых акругах, як, напрыклад, у Беластоцкай, дзе ўплыў Комсамолу вельмі вялікі:

„У дзень 5-га верасьня была праведзена забастоўка, якая ахапіла па гораду 400 чалавек і 150—па мястэчках".

Але ня толькі рабочая моладзь прымае ўдзел у гэтых дэманстрацыях. У многіх з іх удзельнічае таксама сялянская моладзь, а часам нават-салдаты. Унушыцельныя маніфэстацыі ў працягу 2-х апошніх год наладжвае сялянская моладзь у Заходняй Беларусі.

Такія значныя і шматлікія маніфэстацыі, ясная справа, адбываюцца толькі цяпер, калі Саюз разросься ў масавую организацыю. Але трэба дадаць, што і ў першыя годы свайго існаваньня Комсамол Польшчы праводзіў сьвяты, прымаў удзел у дэманстрацыях і інш. (вядома, у параўнаўча меншым ліку).

## Калі польскія комсамольцы не адпачываюць нават і ўначы.

Акрамя першамайскіх дэмонстрацый і сходаў, якія, як вядома, наладжваюцца раз у год, польскія комсамольцы часта, невялікімі групамі, выконваюць на вуліцы такія працы, як вывешваньне сьцягаў, расклейка адозваў і г.д. Гэта—вельмі небясьпечная праца і выконваць яе трэба вельмі асьцярожна, звычайна ўначы. Вывешваньне сьцягаў з адпаведнымі рэволюцыйнымі лёзунгамі, якое зьяўляецца агітацыйным сродкам, паказвае разам з тым буржуазіі, што, ня гледзячы на варварскія прасьледваньні, Комсамол Польшчы жыве і вядзе барацьбу. Гэтыя чырвоныя сьцягі вывешваюцца напярэдадні якой - небудзь рэволюцыйнай справы на самых высокіх пунктах у данай мясцовасьці: на фабрычных трубах, на тэлеграфных правадох.

На наступны дзень у буржуазных газэтах, можна спаткаць допісы, падобныя таму, які мы бярэм з Варшаўскай газэты ад 23-га студзеня 1927 году:

„Мінулай ноччу на вуліцы Навалiпы, насупроць дому № 69, на тэлеграфных правадох невядомымі асобамі вывешан комуністычны плякат з надпісам: „Пашана памяці Леніна, Лібкнехта і Розы Люксэмбург — Комуністычны Саюз Моладзі Польшчы“.

Колькі ініцыятывы і адважнасьці праяўляюць польскія комсамольцы пры „вывешваньні“! На самых высокіх трубах выкідваюць чырвоныя сьцягі, на зьняцьце якіх у паліцыі аднімаецца шмат гадзін працы. Нярэдка, паліцыя спэцыяльна выклікае пажарную дружыну, часта плоціць за зьняцьце па 20-50 рублёў. Адзін з польскіх комсамольцаў пры-

думаў новы спосаб вывешваньня гэтых „паветраных агітатараў“: на дроце, які злучае два высокія будынкі, апушчаецца на сярэдзіну вуліцы вялікі сьцяг з адозвамі, якія, як сьнег падаюць на галавы праходжых. Каб яшчэ ў большай ступені затрудніць зьняцьце сьцягаў, здаралася, комсамольцы прывязвалі да дроту папсаваныя гранаты; паліцыя ня ведаючы, што яны папсаваны, баялася зьняць сьцягі на працягу некалькіх дзён. Уявеце сабе, якое ўражаньне робяць гэтыя сьцягі, як радуюць яны ўзрокі рабочых і колькі крыві псуюць буржуазіі!

Вывешваньне сьцягаў набывае ўсё больш шырокія разьмеры, хоць гэта аднімае шмат працы і энэргіі, а ў выпадку, калі зловяць—пагражае некалькімі гадамі турмы. У некаторых акругах разьвешваліся па некалькі дзясяткаў сьцягаў і нават цэрквы былі імі прыбраны!

Пры правядзеньні кожнай падрыхтоўчай кампаніі, комсамольцы ў Польшчы заняты расклейкапа вуліцах адозваў і прыгатаўленьнем розных рэволюцыйных надпісаў. Прарабляюць гэта невялійкія групкі, з якіх кожная стараецца расклеіць, як можна большую колькасьць адозваў. Былі выпадкі ў Дамброўскім басэйне, калі комсамольцы расклеілі адозвы вакол усяго касьцёлу. Часта расклейваюць адозвы амаль на вачох паліцыі, напрыклад, на будынку дэфэнзывы (ахранкі). Зразумела, што пры такой „клейцы“ неабходна захоўваць найвялікшую асьцярожнасьць, сачыць, ці не праходзіць хто па вуліцы і г. д. Здараецца так, што група комсамольцаў - „расклейшчыкаў“ сустракаецца ў часе працы ўначы з паліцэйскім; і калі ён сам адзін, дык робіць від, што нічога ня прыкмячае.

Але часта здараецца інакш і тады бывае так, як нам апавядае сухі допіс, узяты з буржуазнай газэты (ад 26-га студзеня 1927 г.).

„Учора былі арыштаваны некалькі чалавек: X—19 год, прыватная настаўніца; У—20 год, краўчыха і Z—20 год, фурман. Усе вышэйпамянёныя асобы па Халоднай вуліцы, на парканах і сьценах будынкаў выводзілі надпісы: „Вызваліць палітычных вязьняў“. Арыштаваныя адведзены ў Акруговы Аддзел Палітычнай паліцыі“ (прозьвішчаў ня прывожу, замяняючы іх літарамі X У, Z.— І. Л.)

А другім разам, калі група ўжо пасьпела напісаць: „Няхай жыве“, раптам заўважылі, што тутжа каля іх стаяць паліцэйскія і ўважліва сочаць за тым, што яны пішуць. Пішучы ня страціў розуму і, ня доўга думаючы, дапісаў: „Польшча“. Супакойныя паліцэйскія пайшлі далей. Разумеецца, група пасьля ўходу паліцэйскіх зьвярнулася і да сказу: „Няхай жыве Польшча“, дабавіла слова— „Савецкая“.

Вось такую цяжкую і небясьпечную, патрабуючую вялікай вытрымкі і вопыту, працу выконваюць комсамольцы ў Польшчы.

## Удзел Польскага Комсамолу ў палітычным жыцьці.

Таксама, як і наш УсеЛКСМ, Польскі Комсамол прымае самы бліжэйшы ўдзел ва ўсіх праяўленьнях палітычнай барацьбы, якую вядзе Компартыя, праводзіць усялякія кампаніі сярод моладзі, прымае ўдзел ва ўнутрыпартыйным жыцьці і інш.

Ці то выбары ў Сойм, у бальнічныя касы, або гарадзкія самакіраўніцтвы, ці то палітычныя кампаніі супроць фашысцкага ўраду, або супроць вайны, супроць арыштаў на ўсходніх акраінах, або ў сувязі з ся-

лянскім зьездам, ці кампаніі на карысьць стварэньня адзінага фронту пролетарскай барацьбы і інш., удзел комсамольцаў і тых мас моладзі, якія ідуць за КСМ, вельмі значны. Ĭ гэтая моладзь складае кадр самых актыўных, самых адданых рэволюцыянэраў, як у часе дэмонстрацыі, так і на мітынгах, калі трэба выступіць з прамоваю; як пры расклейцы адозваў, так і пры індывідуальнай агітацыі, або непасрэдна, у крывавых сутычках з паліцыяй і салдатамі, калі прыходзіцца абараняцца супроць куль і штыкоў—камнямі і кіямі...

Вось што, піша аб дапамозе Польскага Комсамолу ў часе выбараў у Сойм адзін з комуністычных дэпутатаў:

„Комсамол выступіў, як найбольш актыўны элемэнт... Выконваў ён ня толькі нелягальную падпольную працу“.

У сувязі з апошнімі (восень 1926 году) пераможнымі выбарамі ў бальнічную касу ў Варшаве, Акруговы Камітэт Компартыі Польшчы спэцыяльна падкрэсьлівае ў сваёй рэзалюцыі асабліва актыўную дапамагу комсамольцаў.

Ня менш энэргічна, чым ва ўсіх агульнапартыйных выступленьнях, выступае Польскі Комсамол у кампаніях, праводзімых сярод моладзі. Масавыя кампаніі, праведзеныя ў 1925-27 годзе ў сувязі з 12-й гадавінай вайны, тыднем Леніна, Лібкнехта, пяцігодзьдзем КІМ‘у, барацьба з варожымі організацыямі моладзі паказалі, што Польскі Комсамол зьяўляецца організацыяй, умеючай яднаць вакол сябе шырокія масы моладзі.

Як вяліка актыўнасьць польскіх комсамольцаў, відаць часткова хаця-б з артыкулаў буржуазнай прэсы, якая нясупынна заклікае да новых арыштаў комсамольцаў, адзіных, як ёй здаецца, віноўнікаў „усіх няшчасьцяў“.

Той-жа дэпутат, якога мы цытавалі вышэй, піша: „Усе нашы рэзолюцыі і перамогі прыпісваюцца толькі таму, што комсамольцы выступалі актыўна“..

Комсамол прымае таксама ўсё больш энэргічны і жывы ўдзел ва ўнутраным жыцьці партыі, у нарысе тактычнай лініі і інш. Знаходзіцца гэта ў сувязі з усё ўзрастаючым вопытам, а значыць, і значэньнем Польскага Комсамолу, роўна, як і ўмацаваньнем кіраўніцтва Саюзам з боку Партыі (недастаткова моцнага на працягу першых год існаваньня КСМ).

Рашэньні 3-га зьезду і чацьвёртай конфэрэнцыі Комуністычнай Партыі Польшчы спрыялі ў значнай ступені ўмацаваньню сувязі паміж партыяй і моладзьдзю.

Кажучы аб удзеле Комсамолу ва ўнутрыпартыйным жыцьці, нельга абысьці маўчаньнем таго, што Польскі Комсамол сумесна з Партыяй дапусьцілі як ультра-левую памылку ў 1925 г., так і ўльтра-правую ў 1926 г. Некаторым апраўданьнем для польскіх комсамольцаў можа служыць недастатковае ленінскае выхаваньне кіраўнічых органаў Саюзу, якое зьяўляецца вынікам адсутнасьці прыемнасьці ў працы з прычыны частых арыштаў. Адначасова мы павінны констатаваць, што неаднакраць польскія комсамольцы выкрылі вялікае пролетарскае чуцьцё і змаглі даць катэгорычны адпор антыленінскім адхіленьням. Напрыклад, у 1923 і 1924 г. г. Саюз змагаўся супроць правага кіраўніцтва партыі, а ў 1925 г. у часе выступленьня невялікай нацыяналістычнай раскольніцкай групы ў Компартыі Заходняй Беларусі, увесь Комсамол Заходняй Беларусі выказаўся без агаворак у ка-

рысьць Цэнтральнага Камітэту Партыі—супроць раскольнікаў.

Удзел у партыйным жыцьці і дапамога КСМ Партыі выяўляецца таксама ў перадачы ёй старэйшых, больш разьвітых таварышоў. Трэба прызнаць, што Польскі Комсамол выконвае ўсё лепш і лепш сваю ролю выхаваценя сваіх маладых членаў, пе-ратвараючы іх у сьвядомых і разьвітых партый-цаў-комуністых. Спрыяе гэтаму нямала пашырэньне сеткі школ палітграматы, абгаварваньне ўсіх бягучых палітычных пытаньняў, „палітычны" кірунак выхаваўчай працы, умацаваньне і павялічэньне ліку друкаваных і гэктографаваных выданьняў, тэзісаў і г. д. Нельга сказаць, каб вынікі, дасягнутыя ў гэтай галіне былі ўпаўне дастатковы—гэтага яшчэ няма: Саюз, так сказаць, не пасьпявае да гэтага часу высоўваць новыя кіраўнічыя кадры, паслабляемыя сталымі арыштамі. Аднак-жа тыя вынікі, якія палітычна-выхаваўчая праца дала ўжо ў працягу апошніх двух год, трэба прызнаць вялікім крокам уперад. Ня трэба забываць (аб гэтым мы ўжо ўспаміналі вышэй) аб умовах, у якіх разьвівалася гэтая выхаваўчая праца, аб адсутнасьці або вялікім недахопу кніг, газэт, часопісяў, памяшканьняў і г. д.

Наогул кажучы, у працягу пяці год існаваньня Комсамолу ў Польшчы, палітычнае жыцьцё Польскага Саюзу Моладзі значна паглыбілася. Сёньня ў падпольлі выхоўваюцца кадры палітычна-разьвітых товарышоў, якім ня чужды пытаньні партыйнай тактыкі, якія не абмяжоўваюцца працай сярод моладзі, але прымаюць самы актыўны ўдзел у барацьбе ўсяго пролетарыяту, нясучы ўсюды сваю юнацкую энэргію, ініцыятыву, тэмпэрамент і адвагу, якая загадвае ім быць заўсёды ў першых шэрагах тых, хто вядзе барацьбу.

Такім чынам, наш братэрскі Комсамол ў Польшчы выконвае ў падпольлі тую-ж самую ролю, што і наш УсеЛКСМ, выхоўваючы ў сваёй арганізацыі маладыя пакаленьні комуністых.

## Як Комсамол Польшчы абараняе экономічныя інтарэсы рабочай моладзі.

Разгледзім коратка экономічнае становішча рабочай моладзі ў буржуазна-панскай Польшчы і параўнаем яго з нашым.

У пасьляваенны пэрыяд, а ў асаблівасьці ў 1926-27 гадох, у Польшчы бяссупынна існуе вялізарнае беспрацоў'е, якое даходзіць зараз да 40%. Мы ведаем, што ў нас таксама існуе беспрацоў'е, хоць не ў такім разьмеры. Беспрацоўныя атрымліваюць у нас дапамогу і ад дзяржавы, і ад профсаюзаў. У Польшчы толькі частка дарослых беспрацоўных атрымлівае невялікую дапамогу, якая не дае ім памерці з голаду, беспрацоўная-ж моладзь ніякай дапамогі не атрымлівае. Можаце паміраць... Нас гэта не датычыць—гаворыць буржуазны ўрад беспрацоўнай моладзі. І сапраўды, у сучаснай Польшчы самагубства сярод беспрацоўнай моладзі і вобмаракі з прычыны голаду прынялі масавы характар.

Аб тым, у якія жахавыя формы выліўся голад у Польшчы, сьведчаць ніжэй паказаныя статыстычныя весткі: за люты 1927 г. ў Лодзі на тэкстыльных фабрыках захварэла ад голаду на працягу аднаго толькі дню 125 работніц; у самой Варшаве на працягу двух тыдняў памерла літаральна з голаду 23 чалавекі, пераважна моладзь (гэтыя офіцыйныя даныя ахопліваюць толькі тыя выпадкі, калі голад зьяўляецца непасрэднай прычынай сьмерці).

Паглядзім аднак-жа, як жывецца тым „шчасьліўцам“, якія не пазбаўлены працы. Працяжнасьць рабочага дню ў часе апошніх некалькіх год усё ўзрастае. Статыстычныя даныя кажуць аб тым, што зараз большасьць рабочай моладзі працуе ад 10-ці да 14 гадзін у суткі. Па гэты дзень ня ўведзен ў дзейнасьць закон аб ахове працы малагодніх. Закон гэты „распрацоўваўся“ 6 год, потым было ўхвалена „часова“ яго ня ўжываць (згодна гэтаму закону рабочы дзень моладзі павінен працягвацца 7 гадзін). У выніку, працу моладзі „ахоўвае“ па гэты дзень стары царскі закон. Так абстаіць справа ў Польшчы. А ў СССР? Наша пролетарская дзяржава лічыла адным з сваіх важнейшых абавязкаў у адносінах да моладзі выданьне новага закону аб ахове працы яе, што і было выканана; моладзь працуе ў нас 6 гадзін у дзень; праца пад зямлёю ў капальнях забаронена.

Зьвернемся аднак да абгаварэньня умоў працы рабочай моладзі ў Польшчы. Каб навучыцца якой небудзь спэцыяльнасьці павінен малады рабочы ці паступаць у рамесьніцкую школу, ці паступаць на фабрыку ў якасьці вучня-практыканта. Але рамесьніцкіх школ у Польшчы надзвычайна мала, а фабрычнае вучнёўства працягваецца там 4 і нават 5 год, у працягу якіх прадпрыемцы карыстаюцца дзяшовай рабочай сілай вучня (такі малады рабочы, які вучыцца хаця-б тры гады, зьяўляецца фактычна кваліфікаваным рабочым, пэнсію-ж атрымоўвае, як вучань). Фабзавучаў, вядома, у Польшчы няма. Моладзь павінна атрымоўваць 12-цідзённы водпуск, але фактычна не атрымоўвае ніякага. А ў нас? У нас моладзь карыстаецца 4-хтыднёвым водпускам; наша ня вельмі яшчэ багатая дзяржава пасылае тых, хто мае патрэбнасьць, у спэцыяльныя

дамы адпачынку, якіх, разумеецца, у Польшчы няма. Аб працягу тэрміну вучнёуства ў нас ня можа быць нават рэчы, хаця-б таму, што ў нас няма таго, хто зацікаўлены ў эксплёатацыі—фабрыканта, прычым працоўнай моладзі забясьпечваецца поўнае правядзеньне ў жыцьцё дзейнічаючага закону аб ахове працы.

Заробчая плата ў Польшчы неўявіма нізкая. Звычайна, на працягу першага году вучань працуе дармова. Прывядзем лічбовыя даныя па мэталёапрацоўчай прамысловасьці.

у Горнай Сілезіі:

першы год 10 кап. у дзень.

другі „ 20 „ „ „

Па каменнавугольнай прамысловасьці:

у Дамброўскім басэйну: у сярэднім—38 кап. у дзень.

Па тэкстыльнай прамысловасьці:

у Заверцы: у сярэднім 26 кап. у дзень.

у Жырардаве: „ 40 „ „ „

Корэспондэнцыя, зьмешчаная ў аднэй з буржуазных газэт, дае ніжэйпаказаны малюнак таго, што адбываецца на заводзе сельска-гаспадарчых машын пад Пазнаньню:

„Працуе нас—15 вучняў. У працягу першага году вучні не атрымоўваюць нічога, на другім годзе ½ кап. у гадзіну, на трэцім—1 кап. Працаваць прыходзіцца 10 гадзін у дзень. Пан Б. (уладар заводу) бье вучняў да страты сьвядомасьці“.

Хоць і ў нас заробкі многіх маладых рабочых ня досыць высокія, тым ня менш нельга нават параўнаць ня толькі зарплату, але і ўсё эканамічнае становішча рабочай моладзі ў Польшчы з ўмовамі, існуючымі ў першай пролетарскай рэспубліцы.

Аднак, пануючым зараз у Польшчы фашыстым мала і гэтага. Яны хочуць навязаць моладзі дэкрэт, які аддае фактычна вучнёўства ў няволю. Дэкрэт гэты забараняе моладзі організоўвацца, дае права майстрам прыгаварваць (бяз суда!) вучняў да двухтыднёвага зьняволеньня за непаслушэнства, уводзіць высокую плату за экзамін на званьне кваліфікаванага рабочага і інш. Гэты дэкрэт зьяўляецца зваротам да сярэдневяковых адносін у вучнёўстве. Польская пролетарская моладзь ясна бачыць цяпер, што прынёс з сабою фашыст Пілсудзкі.

Што-ж робяць у такіх умовах, пры ўсё пагоршваючымся становішчы рабочай моладзі, польскія профсаюзы? Ці забараняюць яны інтарэсы, як змагаюцца і ці змагаюцца наогул у яе абарону? Якія адносіны правадыроў соцыялістычных організацый моладзі да экономічнай барацьбы? Вось тыя пытаньні, на якія мы павінны па чарзе адказаць.

У 1919 годзе ўзьніклі стыхійна пры профсаюзах сэкцыі моладзі (юнсэкцыі). Сэкцыі гэтыя з першага дню свайго ўзьнікненьня выступілі вельмі рэзка супроць правадыроў згодніцкіх профсаюзаў, якія стараліся не дапускаць моладзь да ўдзелу ў экономічнай і палітычнай барацьбе і як гэта водзіцца заўсёды сабаціравалі і зрывалі ўсякія забастоўкі. Заўважыўшы, што сэкцыі знаходзяцца пад моцным уплывам Комсамолу і што аб'яднаная ў сэкцыях моладзь не жадае ўступіць соцыял-здрадніцкім профэсыйным „варацілам“, гэтыя апошнія пачалі барацьбу з „недысцыплінавай“ моладзьдзю. Пачалося з роспуску праўленьняў сэкцый і скончылася паступовым зачыненьнем усіх сэкцый. Чаго не ўдалося зрабіць польскай ахранцы правялі лёкаі буржуазіі з ППС!... Рабочую моладзь, якая прад'яўляла масавыя патрабаваньні стварэньня сэкцый, згодніцкія правадыры адсылалі да мілітарыстычнай

організацыі Пілсудзкага—„Стралец“ ці да сваіх організацый моладзі. Аднак, працоўная моладзь, пад кіраўніцтвам КСМ, ня ўступала ні на крок у сваёй барацьбе, хоць, на вялікі жаль, частка яе (а ў тым ліку некаторыя члены Польскага Комсамолу), разачараваная політыкай згоднікаў, адмаўлялася ад працы ў профсаюзах. Пад націскам нізоў, па патрабаваньню профсаюзнай „Лявіцы“, Зьезд профсаюзаў у 1924 годзе прыняў рэзолюцыю аб стварэньні сэкцыі моладзі. Цэлы год здрадніцкія правадыры трымалі гэтую рэзолюцыю пад сукном, а потым стараліся ператварыць сэкцыі ў організацыі, маючыя выключна культурна-асьветны характар. Пад націскам мас былі яны аднак прымушаны прызнаць часткова за сэкцыямі права вядзеньня экономічнай барацьбы. Гэта кампанія ў карысьць стварэньня сэкцый атрымала асабліва моцнае разьвіцьце ў 1926 годзе. Кампанія прайшла пад кіраўніцтвам Комсамолу, які зварочвае ўсё большую ўвагу на ўцягненьне моладзі ў профсаюзы і стварэньне пры іх сэкцый. У выніку напружанай працы Комсамолу ўзніклі зноў у многіх акругах сэкцыі моладзі, а таксама былі прыняты рэзолюцыі аб іх стварэньні Варшаўскім, Беластоцкім і шэрагам іншых акрпрофсаветаў.

У сэкцыях моладзі польскія комсамольцы вядуць энэргічную дзейнасьць і кадры сэкцыйных актывістых знаходзяцца пераважна з іх. Сэкцыі-ж, хоць лік іх да гэтага часу параўнаўча невялікі, могуць ужо заслужана пахваліцца больш чым паўтары дзясяткам выйграных забастовак. У ва ўсіх забастоўках моладзі першае месца належыць Комсамолу, які кіруе імі або праз сэкцыі, або праз абраных дзе-колечы дэлегатаў моладзі пры фабзаўкомах. Комсамол высоўвае

патрабаваньні, яго фабрычныя ячэйкі ўсё часьцей зьяўляюцца тымі організацыямі, якія кіруюць рабочай моладзьдзю ў яе штодзёнай барацьбе. Закончаныя перамогай забастоўкі ў Заходняй Беларусі, прад'яўленьне патрабаваньняў моладзі ў часе забастоўкі мэталістых у Варшаве (у 1925 годзе), заваяваньне 25%-прыбаўкі для моладзі ў панчошнатрыкатажнай прамысловасьці ў Лодзі (у 1926 г.) і інш.—вось вынікі кіраўніцтва Комсамолу Польшчы рабочай моладзьдзю. Ясна, што польскія комсамольцы вядуць барацьбу ня толькі за павышэньне зарплаты маладых рабочых, але таксама і за ахову працы моладзі, за скарачэньне тэрміну вучнёўства, за водпускі, за профшколы і г. д. У апошні час асаблівае значэньне набывае перш за ўсё барацьба супроць новага дэкрэту аб вучнёўстве, за права сходаў для моладзі, супроць вынікаў капіталістычнай рацыяналізацыі.

У працягу апошніх год разрастаецца ўсё шырэй праца сярод найбольш абяздоленай часткі рабочай моладзі—беспрацоўнай. Комсамол зьяўляецца яе гарачым абаронцам, патрабуючы для яе працы ці дапамогі, роўна як і адчыненьня профшкол. Амаль усімі дэмонстрацыямі, якія так часта наладжвае паміраючая часам на вуліцах ад змору беспрацоўная моладзь, кіруе Комсамол; пад уплывам яго агітацыі ўзьнікаюць кіраўнічыя організацыі беспрацоўнай моладзі—выбіраюцца дэлегаты ў камітэты беспрацоўных.

Трэба яшчэ зьвярнуць увагу на тое, што рабочая моладзь, якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам Комсамолу, усе кампаніі і забастоўкі заўсёды праводзіць у поўнай згодзе і разам з дарослымі рабочымі.

## Праца Комсамолу ў польскай вёсцы разгортваецца.

Польскі Комсамол пачаў сваю дзейнасьць ня толькі ня маючы ў сваіх шэрагах ніводнага члену маладога селяніна, але ня маючы нават ніякага ўплыву сярод сялянскай моладзі.

Становішча гэта было выклікана многімі прычынамі. Сялянская моладзь была заўсёды менш разьвітай і сьвядомай, чым рабочая. У працягу апошняга 10-цігодзьдзя нязначная частка яе была організавана рознымі згодніцкімі організацыямі сялянскай моладзі. Належачы, аднак, да гэтых організацый, сялянская моладзь ня прымала непасрэднага ўдзелу ў разыгрываючайся політычнай барацьбе, таму што згодніцкія правадыры гэтых організацый ставілі сабе задачай не дапушчаць масы сялянскай моладзі да ўдзелу ў гэтай барацьбе. Акрамя таго, тады былі яшчэ вельмі моцныя патрыётычныя настроі сярод сялянскай моладзі, а польскія комсамольцы не вялі сярод яе ніякай агітацыі. З гэтай прычыны няма нічога дзіўнага ў тым, што ў шэрагах Комсамолу ня было ніводнага маладога селяніна.

Так прайшло два гады, на працягу якіх польскія комсамольцы працавалі толькі дзе-колечы сярод маладых батракоў, а украінскія комсамольцы таксама сярод малазямельнай сялянскай моладзі. У чым ляжыць прычына таго, што Польскі Комсамол ня вёў у працягу такога вялікага пэрыяду часу ніякай працы сярод маладых сялян? Галоўнай прычынай зьяўляеца памылковая позіцыя ў аграрным пытаньні, вынікам якой была недаацэнка і неразуменьне неабходнасьці і значэньня працы ў вёсцы.

Мы, перамогшыя дзякуючы саюзу пролетарыяту з сялянствам, аддаем сабе ясную справаздачу

ў той агромністай памылцы, якую дапусьціла тады Компартыя Польшчы і Комсамол разам з ёй (процэс бальшавізацыі праходзілі паступова ўсе Компартыі і Комуністычныя Саюзы Моладзі Захаду). І Польскі Комсамол як і Компартыя зразумеў сваю памылку. У канцы 1923 году пасьля другога зьезду Компартыі Польшчы, прыняў ён ленінскія прынцыпы па сялянскаму пытаньню.

Аднак-жа, у рэчаіснасьці, плянавая праца ў вёсцы пачалася толькі пасьля чацьвёртага Конгрэсу Комінтэрну Моладзі. А час не чакаў. Даўно ўжо прышла пара ўзяцца за працу сярод сялянскай моладзі. Процэс радыкалізацыі вёскі ў Польшчы рухаўся ўперад надзвычайна хуткім тэмпам на ўсходніх акраінах (крэсах) і некалькі павольней у каранной Польшчы. Адзнакамі гэтай радыкалізацыі зьяўляюцца расколы ў згодніцкай сялянскай партыі „Вызваленьне", узьнікнавеньне Незалежнай Сялянскай Партыі, Беларускай Рабоча-Сялянскай Грамады, Украінскага Сельроба (з якіх ніводная не зьяўляецца комуністычнай організацыяй, хоць усе яны маюць вельмі рэволюцыйную програму), а таксама рост уплыву Компартыі ў вёсцы, асабліва ў Заходняй Беларусі. Гэты-ж процэс, хоць і з некаторым спазьненьнем, разьвіўся таксама сярод сялянскай моладзі.

Самай моцнай організацыяй сялянскай моладзі ў Польшчы зьяўляецца Саюз Сялянскай Моладзі. Саюз гэты налічвае ў сваіх шэрагах звыш 30 тысяч членаў, што ўяўляе сабою ў польскіх умовах вельмі значную колькасьць. Пад уплывам знаходзіцца перш за ўсё серадняцкая і малазямельная моладзь. Кіраўнікамі Саюзу зьяўляюцца згоднікі— пілсудчыкі, „Вызваленцы", а часткова таксама прыхільнікі кулацкай партыі „Пяст". Частка членаў Саюзу Сялянскай Моладзі належыць да мілітары-

стычна-фашысцкай арганізацыі Пілсудзкага—„Стралец“. Першыя адзнакі пранікнавеньня ў гэтую арганізацыю рэвалюцыйных уплываў сталі прыкметны ў 1925 г., а ў 1926 годзе на зьездзе гэтага Саюзу выступіла ўжо левая опозіцыя, якая патрабавала дармовага адчужэньня зямлі, прызнавала права самавызначэньня за украінскім і беларускім народамі аж да аддзяленьня ад Польскай дзяржавы і г. д. Гэта зусім ня была комуністычная опозіцыя, роўна як ня была такою опозіцыя на Варшаўскай акруговай конфэрэнцыі Саюзу ў канцы 1926 году. Гэта опозіцыя не самавызначылася яшчэ на сапраўды рэволюцыйнай пляцформе. Якое аднак яна зрабіла ўражаньне (ня будучы яшчэ комуністычнай) ў гэтым згодніцкім саюзе, які прызнае толькі „панаваньне інтарэсаў грамады і народу над клясавымі супярэчнасьцямі“, аб тым сьведчыць ніжэйпаданая вытрымка з артыкулу буржуазнага профэсара, апісваючага памянёны зьезд:

„Спаткала мяне—адно. Патрабаваньне экспрапрыяцыі зямлі бяз выкупу і таму падобныя жахі зьяўляюцца небясьпечнай хваробаю. Заявы гэтай моцнай комуністычнай групы сустракаліся працяжнымі і бурнымі воплескамі, што ўчыняла мне асаблівую боль“.

Вялікае значэньне мае таксама ўзьнікненьне Саюзу Сялянскай Моладзі, які выдаваў часопісь „Орка“. Гэтая група зьяўляецца некалькі больш зконсолідаванай у палітычных адносінах, хоць не стаіць таксама на комсамольскай пляцформе. Гарачы прыём, аказаны іх выданьню сялянскай моладзьдзю, выклікаў такую паніку сярод буржуазіі, што пасьля конфіскацыі некалькіх нумароў „Орка“ была зачынена, а ў сакавіку 1927 году названая арганізацыя моладзі была абвешчана нелегальнай.

У сувязі з ростам рэволюцыйных настрояў сярод мас польскай сялянскай моладзі разгортваецца вясковая праца Комсамолу ў каранной Польшчы. Усё ў новых і новых акругах ўзьнікаюць вясковыя гурткі, якія працуюць з дапамогаю рабочых, пасланых Комсамолам. У некаторых акругах вырас ужо ў апошні час значны комсамольскі вясковы актыў. У некаторых рабочых дэмонстрацыях прымалі ўдзел маладыя сяляне, якія знаходзяцца пад уплывам Комсамолу, прыбыўшыя спэцыяльна ў горад для ўдзелу ў дэмонстрацыі. Прыходзіцца аднак-жа констатаваць, што ня гледзячы на бязупынны рост уплыву Комсамолу ў польскай вёсцы, колькасьць вясковых комсамольскіх гурткоў да гэтага часу вельмі нязначна. Комсамол Польшчы бачыць гэты недахоп і зварочвае ўсё больш увагі на гэту галіну сваёй дзейнасьці, дзякуючы чаму мы ўпаўне пераконаны ў тым, што ўсе недахопы будуць скора выжыты.

## Праца Комсамолу Польшчы сярод моладзі прыгнечаных народнасьцяў.

На тэрыторыі Польскай дзяржавы жыве каля 40% украінцаў, беларусаў, яўрэяў, немцаў і інш. На тэрыторыі, якая мяжуецца з нашым Саюзам Савецкіх Рэспублік, гэта значыць у Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне, прылучаных да Польшчы наперакор волі насельніцтва, жывуць пераважна беларусы і ўкраінцы, лік-жа палякаў вельмі нязначны. На заходніх акраінах жывуць у большай колькасьці немцы; яўрэі раскіданы па ўсёй Польшчы. Буржуазная Польшча прыгнятае ўсялякімі спосабамі так званыя нацыянальныя меншасьці, імкнучыся да іх асіміляцыі. Стогнучыя пад цяжкасьцю гэтага гнёту народнасьці настроены варожа да ўлады польскай буржуазіі і паноў. Адносіцца гэта перш за

ўсё да ўсходніх акраін—беларускіх і украінскіх, дзе адбываюцца пастаянныя хваляваньні і бунты супроць прымусу польскіх паноў.

Комуністычны Саюз Моладзі, як мы ўжо казалі вышэй, меў са дню свайго ўзьнікненьня ўплыў сярод яўрэйскай моладзі. На жаль нельга сказаць таго-ж аб моладзі украінскай і беларускай. Украінская комсамольская організацыя мела нязначны ўплыў на украінскую моладзь і ніякага ўплыву ня меў Комсамол Польшчы на беларускую моладзь, гэта значыць перш за ўсё на вясковую моладзь гэтай нацыянальнасьці, бо амаль усе беларусы ў Польшчы—сяляне. Толькі ў канцы 1923 г., у сувязі з прыняцьцем ленінскай позіцыі ў нацыянальным пытаньні Компартыяй і Комсамолам Польшчы, становішча некалькі палепшылася. Але вось у 1924 годзе наступае рэзкі пералом. Пачынаецца значны рост КСМ і яго ўплыву ў Заходняй Беларусі, а часткова таксама і ў Заходняй Украіне. Украінская і беларуская моладзь бачыць, што толькі Компартыя і Комсамол зьяўляюцца яе адзінымі абаронцамі ў барацьбе супроць крывавых буржуазна-панскіх окупантаў. Моладзь усё больш пранікаецца сьвядомасьцю таго, што вызваленьне ад клясавага нацыянальнага прыгнёту можа ёй прынесьці толькі пераможная рэволюцыйная барацьба сумесна з польскімі рабочымі. Буржуазія стараецца „ратаваць“ сваю дзяржаву пры дапамозе крывавага тэрору. Кожныя некалькі месяцаў па ня ведаючых супакою беларускіх і украінскіх землях разьліваецца шырокая хваля дзікіх рэпрэсій. Тады ў гарадох і вёсках льлецца кроў, а з-за сьцен польскіх турмаў і дэфэнзывы днём і ўначы нясуцца душуразьдзіраючыя стогны катуемых. Але ў адказ на гэтыя гвалты ўсё новыя і новыя тысячы беларусоў і украінцаў уступаюць у бязьлітасную барацьбу супроць прыгнятацеляў.

Надае натхненьня ім у гэтай цяжкай барацьбе прыклад нашых рабочых і сялян. Кожны з іх разумее, што па той бок мяжы, ў нашай пролетарскай дзяржаве, іх вольныя браты—украінцы і беларусы—будуюць новае жыцьцё, паляпшаючы са дня ў дзень свой гаспадарчы дабрабыт і разьвіваючы сваю пролетарскую культуру. Вялікі ўплыў на рост значэньня Партыі і Комсамолу на ўсходніх акраінах Польшчы мае той факт, што яны (Партыя і Комсамол) змагаюцца за сапраўднае вызваленьне ад панскага прыгнёту і далучэньне Заходняй Беларусі і Украіны да іх савецкай бацькаўшчыны.

Разуменьне аб тым, як вялікі ўплыў Комсамолу ў Заходняй Беларусі, можа даць корэспондэнцыя, зьмешчаная ў органе Комсамолу Заходняй Беларусі „МАЛАДЫ КОМУНІСТ“ (кастрычнік-лістапад 1926 г.):

„У акрузе N моладзь з‘организавала ўдачную дэмонстрацыю. Моладзь аднэй вёскі пайшла з чырвонымі сьцягамі і сьпевамі рэволюцыйных песьняў у другую вёску. Насустрэч нам вышла другая група, з якой мы злучыліся і пайшлі разам у іншую вёску, дзе былі зроблены прамовы, а потым адбылася дэмонстрацыя. Двое поліцэйскіх, убачыўшы дэмонстрацыю, якая налічвала да 700 удзельнікаў, уцяклі“.

Такія дэмонстрацыі адбываюцца ў Заходняй Беларусі вельмі часта...

Слаба да гэтага часу дзейнасьць КСМ Польшчы сярод нямецкай рабочай моладзі, якая жыве ў Горнай Сілезіі, у Лодзі і іншых мясцовасьцях. Аднакжа, у працягу апошняга году, праводзячы правільную ленінскую політыку ў нацыянальным пытаньні, удалося Комсамолу Польшчы ўзмацніць таксама свой уплыў сярод маладых нямецкіх рабочых.

З кожным днём узрастае лік маладых украінскіх, беларускіх і яўрэйскіх рабочых і сялян, якія ў адных шэрагах з польскай моладзьдзю, у такойжа згодзе, як і мы ў нашай шматпляменай дзяржаве, змагаюцца пад сьцягам Комсамолу Польшчы.

## Як польскія комсамольцы вядуць пропаганду ў арміі.

Праца ў буржуазнай арміі, антымілітарыстычная агітацыя зьяўляюцца аднэй з важнейшых задач усіх комуністычных саюзаў моладзі за межамі. Задача гэта мае асаблівае значэньне для Комсамолу Польшчы, бо з першага дню ўзьнікненьня Польскай дзяржавы мілітарызм расьцьвіў у ёй пышнай кветкай. І нічога няма дзіўнага ў тым, што Польскі Комсамол афяраваў асабліва многа энэргіі антымілітарыстычнай пропагандзе.

Ужо ў першым нумары свайго друкаванага органу (май 1921 году) заклікае ён да „вайны з вайною“. І потым амаль у кожным сваім выданьні Польскі Комсамол зварачаў увагу моладзі на ваенную небясьпеку, на рост узбраеньняў у буржуазнай Польшчы і паказваў на задачы, што стаяць перад маладымі рабочымі і сялянамі Польшчы. Памятна да гэтага часу шырокая кампанія, так званы антымілітарыстычны тыдзень (сакавік 1923 году), для правядзеньня якой узьніклі камітэты барацьбы з мілітарызмам. У склад гэтых камітэтаў увайшло некалькі організацый рабочай моладзі ва ўсёй Польшчы. Потым, у дзень 10-цігодзьдзя пачатку імпэрыялістычнай вайны адбыўся зьезд соцыялістычнай і комуністычнай моладзі ўсёй Польшчы, на якім была прынята прапанаваная комсамольцамі рэзолюцыя.

Ня было ніводнага такога выпадку, каб комсамольцы так ці інакш не рэагавалі на ваенныя пляны польскай буржуазіі. У апошні час комса-

мольцы—разумеецца—зварачаюць асаблівую ўвагу на пляны Пілсудзкага, які па ўказу Англіі рыхтуецца да вайны з СССР. Вось што піша па гэтаму поваду орган ЦК Комсамолу Польшчы „ТАВАРЫШ“ у № 1 за 1927 год:

„Ніколі яшчэ за апошні час ваенная небясьпека ня была так блізка і непасрэдна! Не дапушчайце да таго, каб рабочая і сялянская моладзь, перадзетая ў салдацкія мундзіры, зрабілася пушачным мясам у інтарэсах ангельскай контррэволюцыі і польскага і літоўскага фашызму“.

Як раз як і мы, стоячы плячом к плячу з нашай партыяй, пры ўзрастаючай ваеннай небясьпецы, мабілізуем шырокія масы рабоча-сялянскай моладзі ва ўсім СССР, пастулаюць таксама і нашы таварышы ў Польскай дзяржаве, разгортваючы нязвычайна ажыўленую дзейнасьць у сувязі з махінацыямі Пілсудзкага.

Прыгледзімся цяпер да таго, якую працу вядзе Польскі Комсамол сярод прызываемых на ваенную службу і сярод салдат польскай арміі.

У першыя гады існаваньня КСМ у Польшчы праца гэта была вельмі слабая. Польскі Комсамол не ўразумеў яшчэ тады і не паставіў перад сабою задачу стварэньня ўнутры арміі комуністычных ячэяк для працы сярод салдат. Вядома, праца ў польскай буржуазнай арміі зьвязана з вялізарнымі цяжкасьцямі—гэта зразумела кожнаму. Польская буржуазія не дазваляе салдатам організоўвацца ў якія-б то ня было палітычныя таварыствы і не дазваляе чытаць рабочых газэт, пазбаўляе салдат выбарчага права і г. д. Разумеецца, усе гэтыя абмежаваньні маюць сваёй мэтай пад сьцягам „беспартыйнасьці“ не дапусьціць салдат—рабочых і сялян—да ўдзелу ў рэволюцыйнай барацьбе. Фактычна ў арміі добра аплачваемыя ўрадам афіцэры выхоўваюць з салдат

ворагаў рабочай клясы. Калі-ж гэта необходна кіруючай буржуазіі, дык яна пасылае „сваіх“ салдат супроць рабочых і сялян. Нямала было ў Польшчы такіх выпадкаў, калі атуманеныя салдаты-пралетары стралялі ў бастуючых рабочых ці сялянскія дэмонстрацыі. Каб мець большую ўпэўненасьць у тым, што салдаты будуць паслушна выконваць волю буржуазнай улады, польскі ўрад пасылае амаль усіх салдат-беларусоў і украінцаў у каранную Польшчу, а салдат-палякаў шле на прыгнятаемыя ўсходнія „крэсы“.

Вядома, у паказаных вышэй умовах, ня лёгка заняволеным у казармах салдатам зьбірацца на нелягальныя сходы. Буржуазія старанна ахоўвае армію ад агітацыі комсамольцаў, стараючыся іх арыштаваць і кінуць на многія годы ў турму.

У той час, калі ў нас чырвонаармеец зьяўляецца ня рэдка членам Партыі ці Комсамолу, прымае ўдзел разам з усім насельніцтвам у будаўніцтве соцыялізму і зьвязаны самым шчыльным чынам з рабоча-сялянскай масай, частку якой ён складае, у той час, калі ў нас існуе цясьнейшая сувязь паміж Комсамолам і Чырвонай Арміяй,—у Польшчы салдат адарваны цалкам ад барацьбы сваіх братоў, а яго „выхавацелі“—афіцэры стараюцца зрабіць з яго ворага працоўных і прымушаюць яго страляць у іх.

Ня гледзячы на агромністыя цяжкасьці, польскія комсамольцы разьвілі значную дзейнасьць як сярод прызыўнікоў, так і сярод салдат. Па вельмі зразумелых прычынах мы ня можам прывесьці тут весткі аб становішчы гэтай самай консьпіратыўнай галіны працы Комсамолу Польшчы. На некаторыя дасягненьні мы ўсё-ж можам зьвярнуць увагу чытача.

З прычыны падрыхтоўчай працы сярод комсамольцаў—прызыўнікоў, у выніку шырокай выда-

вецкай і агітацыйнай дзейнасьці як у 1925, так і 1926 годзе, удалося нашым польскім таварышом наладзіць масавыя сходы прызыўнікоў, а ў Заходняй Беларусі адбываліся нават дэмонстрацыі прызыўнікоў. Са сьпевам «Інтэрнацыяналу», з высока ўзьнятымі чырвонымі сьцягамі ішлі прызыўнікі па вуліцах, накіроўваючыся да чыгуначных вакзалаў.

У той-жа самы час комсамольцы ў Польшчы вядуць вялікую працу ў арміі. У шмат якіх мясцовасьцях узьніклі салдацкія гурткі. Комсамол Польшчы перайшоў ад агульнай антымілітарыстычнай агітацыі да высоўваньня конкрэтных салдацкіх патрабаваньняў і да барацьбы за гэтыя патрабаваньні. У Варшаве зьявіліся нават палкавыя комсамольскія адозвы. Ва ўсіх сваіх адозвах польскія комсамольцы патрабуюць паляпшэньня вельмі дрэнных салдацкіх харчоў, спыненьня пабояў і г. д.

Якія-ж вынікі дала гэтая праца? Вось некаторыя з іх: у Заходняй Беларусі—ў Гародне і Пінску ў комсамольскай дэмонстрацыі прымалі таксама ўдзел салдаты—рабочыя і сяляне. У некаторых казармах салдаты-комсамольцы пішуць на сьценах комсамольскія патрабаваньні. У часе тыдню Леніна-Лібкнэхта салдаты-комсамольцы вывесілі чырвоны сьцяг і г. д. Такім-жа чынам адзетыя ў салдацкія мундзіры маладыя рабочыя і сяляне рэагуюць на агітацыю Комсамолу, аб чым можна судзіць на падставе ніжэйпрыведзенай корэспондэнцыі, атрыманай з аднаго палка органам ЦК КСМ Заходняй Беларусі „МАЛАДЫ КОМУНІСТ“ (№ 7-8 за 1926 год):

„Сапраўдным сьвятам у нашым цяжкім і шэрым жыцьці быў той дзень, калі мы атрымалі адозву аб Міжнародным Юнацкім Дні (МЮД). Сабралося нас усяго 50 чалавек. Селі мы разам з узводным і прыняліся за чытаньне. А потым пачалася дыску-

сія. Усе як адзін казалі: „Калі цяпер пачнецца вайна, дык будзем ведаць, як выкарыстаць гэты момант для барацьбы з буржуазнай бандай. Ніхто з нас ня пойдзе праліваць кроў за буржуазную Польшчу, ніхто ня выступіць супроць Савецкай Рэспублікі“.

## Які друк мае Комсамол Польшчы.

Наш УсеЛКСМ выдае цэлы шэраг уласных газэт і часопісяў. Выходзяць газэты штодзённыя, штотыднёвікі, штомесячнікі, выходзяць спэцыяльныя популярныя выданьні, тэорэтычныя, для актыву і г. д. Моладзь кожнай нацыянальнасьці, хаця-б і не шматлікай, мае выданьні, выходзячыя на яе роднай мове,—і малады рабочы ці селянін—украінец, беларус і г. д. можа купіць сабе за некалькі капеек комсамольскую газэту. Гэтыя газэты і часопісі маюць сваю рэдакцыю, да якой можна зварачацца з запытаньнямі ці пасылаць корэспондэнцыю, сваю кантору, якая рассылае выданьні на пошце. Гэтыя сотні тысяч экзэмпляраў комсамольскіх газэт у СССР даходзяць бесперашкодна да працоўнай моладзі, выхоўваюць яе і разьвіваюць у комуністычным духу. Такое становішча ў першай рабоча-сялянскай рэспубліцы—у Савецкім Саюзе.

Цяпер паглядзім, як абстаіць справа ў буржуазна-панскай Польшчы. Зразумела, што выданьне газэты сустракаецца з нячувалымі цяжкасьцямі, якія зьяўляюцца перш за ўсё вынікам нелягальнасьці Комсамолу (а таксама адсутнасьці сродкаў).

Польскі Комсамол ня мае магчымасьці выдаваць лягальна свае газэты і часопісі, бо польская буржуазія перашкаджае іх выхаду. Нават, калі часам і выходзяць лягальныя выданьні, рэзка крытыкуючыя, напрыклад, польскіх меншавікоў, як здраднікаў рабочай клясы, дык польскі ўрад канфіскуе нумары газэт, зачыняе рэдакцыю, а рэдак-

тара садзіць у турму. Так здарылася са многімі штомесячнымі выданьнямі „левай“ моладзі ў 1921, 1922, 1923 і ў далейшыя годы. Рэдактары гэтых штомесячнікаў былі пасаджаны за краты на год, два і больш. У іншых выпадках польская цэнзура выкрэсьлівае з газэты ці часопісі тую частку артыкулу, у якой выказана рэволюцыйная думка (так робяць у былой Аўстрыйскай Польшчы). Выхалашчанае такім чынам выданьне складаецца толькі з частак артыкулаў і допісаў і белых месц з надпісам „конфіскована“.

Верныя прыслужнікі капіталу—пэпээсаўцы дапамагаюць цэнзуры орыентавацца ў характары рэволюцыйных выданьняў. Калі, напрыклад, улетку 1926 году вышла аднадзённае выданьне рэволюцыйнай пролетарскай моладзі „КЛІЧ РАБОЧАЙ МОЛАДЗІ“,—орган пэпээсаўскай моладзі „ТУР‘у“ (№ 6 за 1926 г.) напісаў, што выданьне гэта—комсамольскае. Мэта, да якой імкнуліся ў даным выпадку правадыры меншавіцкай моладзі, ясна сама сабою. Паказваючы паліцыі пальцам на гэта выданьне, як комуністычнае, заклікаюць яны да яго зачыненьня.

Ня маючы магчымасьці лягальна выдаваць свой орган, Польскі Комсамол прымушаны выпушчаць свае выданьні нелягальна. Некаторыя з іх зьяўляюцца друкаванымі выданьнямі, іншыя-ж гэктографаванымі. Першыя друкуюцца ў консьпіратыўнай партыйнай друкарні. Разумеецца, нельга пры такіх умовах друкаваць больш, чым некалькі сот экзэмпляраў. Цэнтральны орган Комсамолу Польшчы „ТАВАРЫШ“, які выходзіць ужо амаль 5 год на польскай мове (часам і на яўрэйскай), зьяўляецца выданьнем друкаваным. Аўтономныя організацыі—Комсамол Заходняй Беларусі і Заходнай Украіны—таксама пачалі з працягам часу выдаваць свае дру-

каваныя органы. Орган беларускіх комсамольцаў „МАЛАДЫ КОМУНІСТ“ на беларускай і яўрэйскай мовах выходзіць раз раз у месяц; радзей выходзіць украінскі „СПАРТАК“.

Зразумела, што ў польскіх умовах можна друкаваць толькі самыя важныя выданьні, адозвы-ж (якія выпушчаюцца вельмі часта), бюлецені, тэзісы, органы акругкомаў і г. д. ня могуць быць надрукаваны друкарскім спосабам. Польскі Комсамол друкуе іх ручным спосабам на гэктографе, як гэта рабіла некалі бальшавіцкая партыя, калі яна была яшчэ нелягальнай. Гэктографаваньне—праца нялегкая: трэба спачатку вельмі чотка перапісаць увесь матар‘ял, а потым ужо рабіць адбіткі. У адзін прыём можна зрабіць ня больш 60 адбіткаў. З гэтага відаць, што выпуск комсамольскіх выданьняў у Польшчы зьвязаны з вельмі вялікімі цяжкасьцямі. Прытым бываюць такія выпадкі, што з прычыны зробленых арыштаў матар‘ялы і артыкулы трапляюць у рукі ахранкі. Здаралася нават так, што паліцыя нападала на сьлед тайнай друкарні і арыштоўвала таварышоў у часе працы на гэктографе... а тады ўся праца, якую выканала рэдакцыя, прападала беззваротна ў адзін момант. У рукі паліцыі трапляюць пры гэтым ня толькі артыкулы, але і корэспондэнцыі, якія ня могуць быць даставулены рэдакцыі поштай (як гэта робіцца ў нас), а толькі „організацыйным шляхам“—пры дапамозе кур‘ераў. Польскія комсамольцы ўсё-ж не апускаюць рук, але з падвоенай энэргіяй прыступаюць да новай працы.

Вышэй мы ўжо казалі аб розных друкаваных і гэктографаваных выданьнях. У палове 1926 году зьявіліся новыя газэткі, выдаваемыя комсамольскімі ячэйкамі. Гэтыя фабрычныя газэткі зьяўляюцца доказам таго, што Польскі Комсамол усё глыбей

пранікае ў масы пролетарскай моладзі. Надворны выгляд іх, вядома, зусім іншы, чым нашых. У нас яны вывешваюцца на сьцяне, на самым відным месцы на фабрыцы, шахце ці ў клюбе, так, каб кожны мог іх прачытаць. Само сабой разумецца, што ў фашысцкай Польшчы рабіць гэтага нельга. Газэту сарвала-б у той-жа час адміністрацыя пры дапамозе паліцыі. З гэтай прычыны, фабрычныя газэткі Польскага Комсамолу маюць выгляд сшытку і складаюцца з некалькіх (ад 4 да 6) старонак. Спачатку газэткі гэтыя пісаліся ад рукі, цяпер-жа яны гэктографуюцца, а часам пішуцца на пішучай машынцы.

Выданьні літаратуры—гэта толькі палова працы. Другая палова гэта дастаўка іх у рукі маладых рабочых і сялян. Мы ўжо ўспаміналі аб тым, што перасылка іх па пошце немагчыма. Польскі Комсамол мае спэцыяльны тэхнічны апарат, задачай якога зьяўляецца вынесьці газэты і адозвы з друкарні і распаўсюдзіць іх па ўсёй краіне. Ясна, што ўсе выпускаемыя выданьні павінны быць дастаўлены ў кожны куток краіны, кожнай ячэйцы. І з гэтай прычыны кожная комсамольская організацыя мае сваіх „тэхнічных працаўнікоў“ („тэхнікаў“). Распаўсюджваньне і разноска выданьняў—рэч вельмі небясьпечная, затым што чалавек ідучы з пачкай літаратуры лёгка можа зьвярнуць на сябе ўвагу сышчыкаў. Прыходзіцца дзейнічаць консьпіратыўна, хаваць літаратуру пад адзежу, у чамаданы і г. д.

Цяпер мы бачым, колькі перашкод і небясьпек, зусім нам незнаёмых, прыходзіцца перамагаць польскім комсамольцам пры выданьні і распаўсюджваньні сваёй літаратуры. Ня гледзячы на нязвычайную гатоўнасьць да самаафяраваньня з боку польскіх комсамольцаў—не прадстаўляецца магчы-

масьці выпушчаць такую колькасьць літаратуры, каб усе маладыя рабочыя і сяляне, на якіх распаўсюджваецца ўплыў Комсамолу, маглі атрымаць па аднаму экзэмпляру таго ці іншага выданьня. Колькі патуг прыходзіцца класьці часам, каб атрымаць якое-небудзь комсамольскае выданьне!

І з гэтай прычыны на многіх выданьнях Польскі Комсамол піша: „Пасьля прачытаньня перадай другому“. Але і тыя выданьні, на якіх гэтага надпісу няма, перадаюцца з рук у рукі, абслугоўваючы такім чынам многіх чытачоў. Комсамольская літаратура мае для маладога рабочага і селяніна ў Польшчы вялізарную каштоўнасьць, проста такі незразумелую нам, маючым тысячы экзэмпляраў штодзённых газэт і часопісаў, нам, якім ня прыходзіцца даставаць з небясьпекай комсамольскую газэту і з падцішка яе прачытваць, але маючым магчымасьць рабіць гэта ўсё адкрыта і свабодна.

## Іншыя галіны працы Комсамолу Польшчы.

Вашнейшыя галіны дзейнасьці Комсамолу Польшчы намі ўжо апісаны. Імі аднак ня вычэрпваецца ўся праца Польскага Комсамолу. Ёсьць яшчэ і другія галіны працы, як праца сярод вучнёўскай моладзі (вучняў і студэнтаў), праца сярод рабочых і сялянскіх дзяцей, аб якіх мы нічога да гэтага часу не казалі. Гэта-ж датычыць працы у галіне спорту, якой кіруюць комсамольцы.

Разгледзім усе гэтыя віды дзейнасьці па чарзе. Спачатку пазнаёмімся з працай сярод вучнёўскай моладзі. Аб якой моладзі можа быць гутарка? Рабочай, сялянскай, буржуазнай? Якая моладзь напаўняе нашы сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы—вядома кожнаму. У нашых школах і вышэйшых навучальных установах вучыцца рабочая і сялянская моладзь і невялікі процант дробна-

буржуазнай моладзі. У нашай пролетарскай рэспубліцы школы адкрыты для найшырокіх народных мас, гэта значыць перш за ўсё для маладых рабочых і сялян. Наша дзяржава прыкладае ўсе патугі каб даць вышэйшую адукацыю магчыма большай колькасьці працоўнай моладзі. Само сабой разумеецца, што задачу гэту можна выканаць толькі паступова, але ўжо сёньня мы маем тысячы маладых рабочых і сялян, якія вучацца ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. Ці так абстаіць справа ў Польшчы? Разумеецца—не! У Польшчы рабочаму, а тым больш селяніну, амаль немагчыма атрымаць доступ у сярэднюю школу, ня кажучы ўжо зусім аб вышэйшай. Процант рабочых і сялян у школах з гэтай прычыны вельмі нязначны і агромністая большасьць вучняў складаецца з дробна-буржуазнай моладзі. Значная частка гэтай моладзі жыве ўрокамі, якія прымушана даваць, каб мець магчымасьць вучыцца. Дапамогі атрымоўвае вельмі нязначны процант (каля 5 проц.) студэнтаў. Наогул матар'яльнае становішча большасьці вучнёўскай моладзі вельмі цяжкае, затым што ў пасьляваеннай Польшчы дробная буржуазія экономічна зруйнавалася.

Да працы сярод гэтых студэнтаў і вучняў, якіх экономічнае становішча штурхае на барацьбу, нельга адносіцца з нядбайнасьцю. І Польскі Комсамол з першага дню свайго ўзьнікненьня вядзе працу як сярод вучняў, так і сярод студэнтаў. Польскі Комсамол мае свае ячэйкі сярод вучнёўскай моладзі, пад яго ўплывам знаходзяцца фракцыі ў лягальных юнацкіх організацыях.

Вядучы працу сярод студэнтаў, Комсамол Польшчы змагаецца ў абарону інтарэсаў большай часткі вучнёўскай моладзі, гэта значыць тэй, якая ня мае грошай, каб плаціць за праванавучаньне,

экзаміны ва унівэрсытэце, заняткі ў лябораторыях (у Польшчы трэба плаціць за праванавучаньне дзяржаве ці прыватным уласьнікам школ і г. д.). Гэтая праца сярод студэнтаў прыняла вельмі шырокія разьмеры і дала вялікія вынікі, асабліва ў 1926 годзе, калі ў Кракаве адбыліся студэнцкія хваляваньні і нават (першы раз у Польскай дзяржаве) студэнцкая забастоўка. У выступленьнях студэнтаў, якія мелі тады месца ў іншых гарадох, роўна як і ў забастоўцы, Комсамол Польшчы прымаў бліжэйшы і непасрэдны ўдзел, а часам адыгрываў кіраўнічую ролю. Буржуазны друк, бачачы ў гэтым „комунізіраваньне“ студэнтаў, якія былі заўжды ў сваёй масе рэакцыйна настроены, вялікую небясьпеку для дзяржавы—заклікаў да адзіна сапраўдных, па яе думцы, сродкаў абароны, гэта значыць да арыштаў. Між тым усе гэтыя хваляваньні ўспыхнулі ўжо пасьля арышту многіх членаў і кіраўнікоў саюзу левай соцыялістычнай моладзі „Жыцьцё“. Арышты гэтыя нічога, аднак, не дапамагаюць—студэнты бачаць, хто зьяўляецца іх сапраўдным абаронцай...

Прыгледзімся цяпер да другой галіны працы—да піонэрскай. Гісторыя піонэрскіх организацый у Польшчы вельмі кароткая: першыя групы ўзьніклі ў Варшаве ў пачатку 1925 г. Зьбіраюцца яны нелягальна: улетку—пад адкрытым небам, зімою—у кватэры. Прыслухаемся да таго, як адзін з гэтых піонэраў расказвае ў сваім нелягальным органе „Піонэр“ (жнівень 1926 г.) аб сьвяткаваньні Міжнароднага Дзіцячага Дню:

„...Маленькі пакойчык, прыбраны на скорую руку чырвонай паперай. Піонэраў мала, больш школьных дзяцей, прыведзеных піонэрамі. Шум. Штосьці нязвычайнае. Мы паслалі піонэрскае пры-

вітаньне ўсім піонэрам. Адзін таварыш чытае, як дзеці ў СССР сьвяткуюць Міжнародны Дзіцячы Дзень. Некалькі піонэраў дэклямуюць...“

Вось якім чынам сьвяткуюць на нелягальных сходах свае сьвяты польскія піонэры. Як далёка ад гэтых умоў праца нашых піонэраў, якім дапамагаюць усе пролетарскія організацыі, дапамагае дзяржава, для якіх наладжваюць лягеры, піонэрскія дамы і г. д.! З гэтай прычыны нядзіўна, што ў той час, як наша піонэрская організацыя налічвас ў сваіх шэрагах 2 мільёны членаў—у Польшчы маецца толькі каля 500 піонэраў, з‘організаваных ў нелягальныя групы.

Нарэшце, мы павінны спыніцца на яшчэ аднэй галіне ў працы Польскага Комсамолу — на спортыўнай працы. Праца гэтая мае агромністае значэньне, асабліва ў Польшчы. Рабочая і сялянская моладзь цягнецца да спорту і розныя нацыяналфашысцкія організацыі вярбуюць моладзь у свае спортыўныя саюзы. У гэтых саюзах яны вядуць паўваенную працу. Адначасова фашысцкі ўрад Пілсудзкага стараецца пад маскай спортыўнай дзейнасьці выхаваць моладзь у мілітарыстычным духу.

Рабочы спортыўны рух у Польшчы разьвіўся покуль яшчэ вельмі слаба. Аднэй з важнейшых прычын слабасьці гэтага руху—недахоп сродкаў. Прытым, Комсамол у якасьці нелягальнай організацыі можа толькі з вялікай цяжкасьцю весьці гэтую працу, якая, разумеецца, павінна прымаць лягальныя формы. Ня гледзячы на ўсе перашкоды, Польскі Комсамол разьвівае ўсё больш і больш гэтую працу, што відаць хаця-б з таго, што на зьезьдзе рабочых спортыўных організацый у Польшчы (1926 г.) рэволюцыйнае крыло аб‘яднала 1/3 частку агульнага ліку дэлегатаў. У апошні час Ком-

самол Польшчы зварачае ўсё больш увагі на гэтую частку працы. Можам быць упэўнены ў тым, што з дапамогай фізкультурнікаў Савецкай Беларусі, якія прынялі ў 1926 г. шэфства над польскім чырвоным спортам, польскія комсамольцы даб'юцца і ў гэтай галіне значных дасягненьняў.

## У польскай ахранцы, турмах і судзе.

Вышэй мы азнаёміліся ўжо са становішчам працы Комсамолу Польшчы і параўналі гэтую працу з нашай. Неаднакраць мы паказывалі на тое, з якімі небясьпекамі зьвязан удзел у барацьбе Комсамолу Польшчы, як буржуазія вырывае сотні маладых рабочых і сялян, якія змагаюцца ў яго шэрагах, арыштоўваючы і саджаючы іх у турмы. У польскіх казэматах зьмяшчаецца звыш 2 тысяч моладзі! Як вялікі лік моладзі ў турмах, аб гэтым можна судзіць на падставе даных аб Лодзінскай турме (канец 1926 году): моладзі ва ўзросьце да 21 году было 46,5%.

Прыгледзімся да таго, як вядуць „дазнаньне" ў польскай дэфэнзыве (так завецца польская ахранка) па справе арыштаваных комсамольцаў і якія ўмовы пануюць у польскіх турмах.

У дэфэнзыве звычайна б'юць. Самым жахавым катаваньням прыцягваюць арыштаваных на так званых „крэсах", гэта значыць у Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі. Бываюць выключэньні, калі арыштаваныя не падлягаюць пабоям, але гэта толькі выключэньні. Вось што гаворыцца аб дзікіх гвалтах ашалеўшых буржуазных катаў у адным з запытаньняў, унесеных у польскі Сойм:

„Білі жалезнымі кіямі па пятках, ламалі ключамі пальцы, білі галавою аб сьценку, паднімалі за валасы ўверх, улівалі па некалькі літраў вады ў рот і праз нос, а на надуўшыся ад вады жывот

садзіўся поліцэйскі, апушчалі на доўгі час голаву ў вядро з халоднай вадой і білі зноў да страты сьвядомасьці“.

У гэтым запытаньні мы маем адно з апісаньняў, якія даюць разуменьне аб тым пекле, якім зьяўляецца для арыштаваных польская дэфэнзыва. Не хапае тут, бязумоўна, апісаньня ўсіх самых удасканаленых мэтадаў, да якіх прыбягаюць зьдзекуючыяся над рэволюцыйнай моладзьдзю садыстысышчыкі з польскай ахранкі. Такім дзікім спосабам. катаваньня, які ўжываецца польскімі ахраньнікамі, зьяўляецца, напрыклад, прыкладваньне электрычных правадоў да плоцявых органаў, да вушэй і г.д.

Такімі нечалавечымі мукамі хочуць польскія ахраньнікі запужаць маладых рэволюцыянэраў, прымусіць іх адмовіцца ад барацьбы і прымусіць іх катаваньнямі зрабіцца правакатарамі. Аднак, амаль усе комсамольцы ўпарта пераносяць мукі катаў з дэфэнзывы і, сьцяўшы зубы, маўчаць.

Што робіцца ў турмах? Маладыя рабочыя і сяляне сядзяць у іх па шмат гадоў. Звычайна, прыгаварваюць за комуністычную дзейнасьць на 4—6 гадоў. Неаднакраць выносіліся, аднак, прыгавары, прадугледжваючыя 10 год катаргі і нават сьмяротнай кары. (За забойства сваіх верных сабакправакатараў буржуазія адпомсціла, растраляўшы некалькі польскіх комсамольцаў). Шмат арыштаваных сядзіць бязьвінна. Буржуазныя суды трымаюць часта пад сьледзтвам людзей па два годы, а потым прымушаны выпусьціць арыштаваных бяз доказаў „супроць-дзяржаўнай дзейнасьці“. Прыгавораных буржуазныя каты вывозяць у катаржныя турмы, дзе пануе спэцыяльна суровы рэжым, знаходзячыяся далёка ад родных месц, на акраінах Польшчы.

Тыя, што сядзяць у адзіночных халодных камэрах, маладыя рэволюцыянэры памерлі-б з галаду, каб не дапамога МОПР'у і сям'і. У 1925 годзе ўзьнікла думка аб прыняцьці ячэйкамі і гурткамі Польскага Комсамолу шэфства над вязьнямі ў турмах—маладымі барацьбітамі. Ва многіх акругах гэтае шэфства ўдалося правесьці ў жыцьцё. (Ячэйкі прысылаюць правізію, кніжкі, лісты і г. д.). Якая надта добрая форма сувязі паміж вязьнямі і тымі, якія знаходзючыся на волі, не запамяталі аб адарваных сілком таварышох па барацьбе!

Але буржуазным катам мала таго, што яны адрываюць рэволюцыйную моладзь ад барацьбы, пакідаючы яе на доўгія годы голаду, холаду і адзіноцтва. Усімі сіламі і спосабамі стараюцца яны „абязшкодзіць“ маладое „комуністычнае зерне“, пазбаўляючы вязьняў самых важных правоў, то спатканьняў, то прагулак, то газэт. Комуністыя, якія сядзяць у турмах, павінны змагацца за лепшыя, больш спрыяючыя ўмовы жыцьця страшэнным аружжам доўгіх галадовак. Гэтая барацьба вельмі цяжка адбіваецца на здароўі маладых організмаў. Часта прыходзіцца расплачвацца потым хваробай; ня рэдкія таксама выпадкі сьмерці ў выніку галадовак. У часе аднэй з галадовак памер на сёмым дні яе 22-годні таварыш Градзіцкі.

Аднак-жа буржуазіі мала і тых гвалтаў, гэтага павольнага паміраньня замучаных ёю безабаронных вязьняў. Колькі тайнаў хаваюць суровыя каменныя сьцены турмаў! Ад часу да часу ўсё-ж пранікае ў сьвет вестка аб тым, што робіцца за турэмнымі кратамі. Здараецца так,—а такіх выпадкаў у адным толькі 1926 г. было некалькі,—што ў турэмнай камэры знаходзяць вязьня, вісячага, які, як потым аказваецца пасьля ўрачэбнага агляду,

быў забіты ў часе катаваньня і з мэтай захаваньня гэтага спэцыяльна павешан. Здараецца так, як кажа адрывак лісту, што:

„Жыхары гораду ня сьпяць у працягу двух тыдняў. Нечалавечыя, душуразьдзіраючыя стогны і енкі катуемых нясуцца з турмы дзень і ноч“.

Захаваць і заглушыць гэтыя енкі ніякім чынам ня ўдасца, хоць-бы нават уся прадажная буржуазія і „соцыялістычны“ друк хлусіў, што ў Польшчы панства дэмократыі і няма ніякага белага тэрору! Між іншым, ня толькі ў закрытых і захаваных ад людзкіх вачэй памяшканьнях ахранкі і турмах пануе сыстэма гвалтаў. Вось што гаварыцца ў лісьце да прокурора, надрукаваным у лягальным друку, аб тым, што робяць крывавыя найміты буржуазіі на вачох усіх:

„У сьнежні 1926 г. а 10-ай гадзіне ўвечары закончыўся ў тутэйшым (Віленскім) апэляцыйным судзе процэс звыш 30 маладых людзей, абвінавачаных у прыналежнасьці да Комсамолу. Паліцэйскі канвой выводзіў з фойе двух вязьняў, потым яшчэ двух і г. д. Мы ня ведалі, куды іх вядуць. Раптам раздаліся страшэнныя крыкі. І ў неспадзеўкі ўсё стала нам ясна: нашых таварышоў закоўваюць у ланцугі. У выхадзе на нас накінуліся 6—7 паліцэйскіх, якія сталі нас закоўваць. Закавалі нас разам, учыніўшы нам пры гэтым значныя ссадзіны на руках. Мы не хацелі ісьці. Паліцэйскія кінулі нас у сані. Мы ляжалі скованыя, прыціснутыя, а паліцэйскія (яны былі страшэнна п‘яныя) білі нас кулакамі па твару, па галаве, рвалі валасы, душылі за горла.

У майго суседа, хворага лёгкімі, хлынула кроў праз горла, у мяне пацякла кроў з носу. Білі нас усю дарогу бязупынна“.

Робіцца гэта ў буржуазна-панскай Польшчы на вуліцы і, вядома, праходзіць зусім беспакаранна.

Аднак, ні турма, ні ахранка ня могуць задушыць у польскім комсамольцы яго баявога полымя. Турмы зьяўляюцца выпытам вытрыманасьці, адвагі, адданасьці справе. Адначасова зьяўляюцца яны для многіх школай—у іх маладыя комуністыя вучацца і чытаюць, каб па выхадзе з турмы на волю паслужыць сваімі ведамі на дабрабыт рабочага руху. З гэтай вось прычыны вязьні прымушаны так часта змагацца за права чытаньня газэт і кніг, за права вучэньня! Ня хочуць яны дарма траціць час прымушанай адарванасьці ад непасрэднага ўдзелу ў барацьбе—і вучацца. Аб тым-жа, што, ня гледзячы на ўсе рэпрэсіі і гвалты, таварышы, якія морацца за кратамі, ні на адну хвіліну не забываюць аб сваёй сувязі з змагаючымся пролетарыятам, няхай сьведчыць ніжэй-паданая вытрымка з запісаньня сьвяткаваньня ў турме Міжнароднага Юнацкага Дню:

„Інспэктар патрабаваў, каб мы зьнялі чырвоныя банцікі. У адказ на нашае адмаўленьне... турэмныя наглядніки пачалі зрываць з нас банцікі. Таварышы абараняліся і ўзьнікла сапраўдная патасоўка".

І за такое сьвяткаваньне ў турме буржуазія прыгаварвае „дадаткова" ад 1 да 3 год турмы.

Судовыя процэсы комуністычнай моладзі паказваюць таксама, што турма не змагла зламаць волі да барацьбы польскіх комсамольцаў. Некаторыя з гэтых судовых процэсаў ператвараюцца ў вялікія дэмонстрацыі супроць буржуазнай улады. Прамовы комсамольцаў, поўныя рэволюцыйнага агню, сустракаюць гарачы водгук сярод запаўняючых галёрак судовай залі рабочых. На адным процэсе былі раскіданы ў залі суду комсамольскія адозвы, заклікаючыя да барацьбы за вызваленьне

палітычных вязьняў. Часта абвяшчэньне прыгавору саправаджаецца ўсеагульным сьпяваньнем Інтэрнацыяналу і рэвалюцыйнымі тостамі.

## Польскія комсамольцы на парозе новых бояк і дасягненьняў.

Разьвіваючыся пад градам бязупынных атак, аддаючы лепшых сваіх байцоў турэмным казэматам, мацнеў Польскі Комсамол. У працягу пяці год, ня гледзячы на шматлікія страты, змог ён удзесяцярыць лік сваіх членаў, набыць большую популярнасьць і ўплыў сярод мас рабочай і сялянскай моладзі ўсіх нацыянальнасьцяў, насяляючых Польскую дзяржаву. Ня гледзячы на нячувалыя цяжкасьці, змог ён выхаваць сваіх членаў у духу нязвычайнай гатоўнасьці да самаафяраваньня і адданасьці справе вызваленьня пролетарыяту ад капіталістычнага прыгнёту. Няма такога фронту барацьбы супроць польскай буржуазіі і паноў, дзе-б ня было польскіх комсамольцаў, дзе-б яны не праявілі сваіх баявых якасьцяў і актыўнасьці. Не запужалі моладзь, не адцягнулі яе ад чырвонага сьцягу Комсамолу крывавыя расправы буржуазных катаў з Кніеўскім, Руткоўскім, Энгелем, Ботвіным і іншымі. Імёны іх дарагі кожнаму комсамольцу. Сотні і тысячы маладых пролетарыяў уступаюць на той шлях, па якому ішлі гэтыя вытрыманыя, гэройскія комсамольцы, паўшыя са словамі: „Няхай жыве соцыяльная революцыя! Няхай жыве Саюз Комуністычнай Моладзі ў Польшчы!“.

Комсамол Польшчы стаў ужо (і будзе станавіцца ім усё ў большай ступені) важным фактарам у рэволюцыйнай барацьбе польскага пролетарыяту. Ня гледзячы на сваю нелягальнасьць, зьяўляецца ён самай большай з усіх існуючых у Польшчы палітычных організацый рабочай і сялянскай моладзі.

Перад польскімі бальшавікамі ўстаюць усё больш і больш цяжкія задачы. На чале ўлады знаходзіцца цяпер прадстаўнік буржуазіі і паноў фашыст Пілсудзкі, які імкнецца затапіць у струменьнях крыві рэволюцыйны рух у Польшчы. Пілсудзкі распускае Беларускую Рабоча-Сялянскую Грамаду, Незалежную Сялянскую Партыю, навязвае надзвычайныя законы супроць комуністых, пасылае сваіх крывавых наймітаў супроць змагаючыхся за сваё вызваленьне беларускага і украінскага народаў. Адначасова рыхтуе ён вайну супроць першай пролетарскай рэспублікі—СССР.

Усе ўдары супроць рэволюцыйнага руху накіраваны перш за ўсё супроць моладзі, супроць яе авангарду—Комсамолу Польшчы. Змагаючыяся ў падпольлі нашы польскія таварышы выступаюць плячом к плячу з старэйшымі рабочымі і сялянамі на барацьбу супроць фашызму, супроць вайны. Барацьба гэта ўсё абвастраецца, усё ўзмацняецца. Усе сілы аддае Польскі Комсамол, каб толькі выканаць задачу, якая заключаецца ў зьнішчэньні фашысцкага ладу і недапушчэньні да вайны з Савецкімі рэспублікамі. Польская буржуазія пераконваецца яшчэ раз, што няма на сьвеце той сілы, якая магла-б прыпыніць барацьбу Польскага Комсамолу. Крок за крокам пасоўваецца ўперад славуты, бязбоязны Комсамол Польшчы. За ім забясьпечана канчатковая перамога, таму што раней ці пазьней пераможа ў сваёй барацьбе за ўладу пролетарыят Польшчы.

# ЗЬМЕСТ.

